


# Наша слова






Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 21 (285) | 23 траўня 1996 г. | Кошт — 1000 рублёў

*Віншуем!*



*З нагоды выдання 100-га нумару часопіса «Роднае слова» зычым калегам стварыць **самы** наватарскі і **самы** лепшы часопіс «не толькі ў Беларусі»*

**Нашасловаўцы.**

## Сустрэча ў Доме ўрада

3 траўня г.г. у сталічным Доме ўрада адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускіх арганізацый са Старшынём Вярхоўнага Савета Сямёнам Шарэцкім. Ініцыятарам сустрэчы быў сам сп. Шарэцкі. Сустракаліся з ім сакратар Таварыства беларускай мовы Людміла Дзіцэвіч, прэзідэнт Таварыства беларускай школы Генадзь Пятроўскі, прадстаўнік Менскага гарадскога камітэта беларускамоўных школ і класаў Алесь Шамак, прадстаўнік ТБШ Валеры Палсцюк, сябра Менскай гарадской Рады ТБМ Мікалай Савіцкі, віцэ-прэзідэнт ТБШ Алесь Лозка.

Прадстаўнікі грамадскіх арганізацый прадставілі Старшыні Вярхоўнага Савета сабраныя імі звесткі аб стане беларускай сярэдняй і вышэйшай школы ў краіне. Яны выказалі занепакоенасць змяншэннем колькасці беларускіх школ і заменай у дзеючых беларускай мовы выкладання на расійскую. Былі выказаныя прэтэнзіі да ўлады, якая не забяспечвае прынятых раней законаў, што гарантуюць роўнасць беларускай мовы з расійскай. Пад час сустрэчы сп. Шарэцкі атрымаў праект плана захадаў, якія мог бы зрабіць Вярхоўны Савет дзеля павышэння статуса беларускай мовы ў дзяржаўным і грамадскім жыцці.

У сваёй размове спікер парламента выказаў думку пра неабходнасць вяртання беларускай мове страчаных ёй пазіцый у сферы адукацыі. На погляд сп.Шарэцкага, праблемы беларускай мовы не павінны быць аргументам радыкальна настроеных палітыкаў — яны могуць вырашацца ўрадам.

**У.П.**

*Рэха*

# *Гарачы канец вясны як «урокі» для восені*

Пасля драматычных падзей 26 красавіка ў Менску пачатак траўня не быў багатым на вельмі значныя эксцэсы, але, тым не менш, напружанасць у грамадстве зусім не спала, наадварот, павялічваецца. Прычынай таму — нагнятанне канфрантацыі ў дзяржаўных СМІ з боку ўладных структур, іх непавага да Канстытуцыі і законаў Беларусі. Вынікі гэтай палітыкі не прымусілі сябе доўга чакаць. Гэта машыны са спецназам, якія раз'язджаюць на вуліцах сталіцы, хапаючы людзей, гэта так званыя суды, якія больш нагадвалі «тройкі» 37-га, што выносяць прысуды толькі на падставе сведчанняў ахоўнікаў правапарадку, і самае галоўнае, гэта тая, мякка кажучы, няпраўда, дэзінфармацыя, якая запаўняе праграмы Беларускага тэлебачання і радыё, а таксама старонкі «чэсных» газет. І тут першынство, безумоўна, належыць «вялікім змагарам» за аб'яднанне славянскіх народаў рэжысёру Азаронку і артысту Гасцюхіну, якія, як і летась, шмат папрацавалі і пусцілі ў тэлеэфір чарговых «дзетак» сваёй фантазіі.

Ужо шмат дзён знаходзяцца ў зняволенні ў следчым ізалятары па вуліцы Валадарскага лідэры БНФ прафесар Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык. Шостага траўня суд Маскоўскага раёна на закрытым (!) пасяджэнні не выпусціў іх на волю пад падпіску аб нявыездзе, надалей пакідаючы за кратамі як асабліва небяспечных (!) злачынцаў. А за іх жа хадайнічалі намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Генадзь Карпенка, дэпутаты Знавец, Дабравольскі, Данейка, а таксама Васіль Быкаў І Рыгор Барадулін ды іншыя вельмі шаноўныя людзі.

І першага, і дзевятага траўня ўлады зноў не абышліся без правакацыяў супраць нацыянальных сіл і незалежных журналістаў. Трэба адзначыць, што ўсё больш актыўны ўдзел у правакацыях супраць журналістаў пачынаюць браць нейкія «невядомыя» людзі. Першага траўня гэтыя людзі на плошчы Незалежнасці напалі на фотажурналістаў, вырываючы і засвечваючы фотастужкі. Увогуле ціск на прадстаўнікоў мас-медыя ўсё больш узмацняецца. Аб'ектамі нападаў сталі тэлекарэспандэнты з Расіі і Украіны. Так, пасля першатраўневага мітынгу (зноў «невядомымі», якіх не заўважала міліцыя) быў учынены напад на здымачную групу НТВ. У карэспандэнта Аляксандра Ступнікава забралі некалькі відэакасет з матэрыяламі. У той жа дзень за машынай групы РТР «невядомымі» была арганізавана пагоня па ўсім горадзе, і толькі рашучымі дзеяннямі карэспандэнта Леаніда Свірыдава, які загадаў групе заблакіравацца ў машыне, тэлежурналістам удалося пазбегнуць нападу. Некалькі дзён прыйшлося прасядзець за кратамі здымачнай групе Украінскага тэлебачання, арыштаванай увечары 26 красавіка. Пасля выхаду на свабоду журналістка Наталля Чангулі прызналася, што гэта яе пятая «гарачая кропка». Да гэтага былі Грузія і тры разы Чачня, але нідзе яна не бачыла такога «беспредела», як у Беларусі. Усё гэта не надае аўтарытэту Беларусі ў вачах грамадскасці тых жа славянскіх дзяржаваў, з якімі ўлады так прагнуць «теснейшим образом» яднацца.

Нарэшце, 9 траўня. Дзень Перамогі. Гурт сяброў Дэмакратычнага аб'яднання ветэранаў прайшоў да помніка Перамогі, каб ускласці вянкі і кветкі ды ўшанаваць памяць палеглых ваяроў. Як толькі прафесар Мікола Савіцкі падняў бел-чырвона-белы сцяг, ззаду на яго накінуліся некалькі амонаўцаў і пачалі груба вырываць сцяг. За Савіцкага ўступіліся не толькі людзі, якія прыйшлі з дэлегацыяй, а нават «правільныя» ветэраны. Амонаўцы пад час сутычкі растапталі кветкі ля Вечнага агню, чым выклікалі праклёны амаль усіх людзей, што знаходзіліся каля помніка. Перакошаныя ад злосці твары гэтых бамбізаў зазнялі дзесяткі тэле- і фотааб'ектываў. Напэўна, зразумеўшы ўсю недарэчнасць сваіх дзеянняў, «абаронцы парадку» ўцяклі ў падземны пераход. Затое прысутныя, хто да апошняга часу верыў афіцыйным сродкам масавай інфармацыі, «жыўцом» убачылі, што атрымліваецца, калі не існуе нічога святога нават у такі дзень і ў такім месцы.

Зараз, з надыходам лета і часу адпачынкаў, лічаць некаторыя аналітыкі, палітычная і грамадская актыўнасць у краіне аціхне, але толькі да восені, калі палітычная атмасфера і эканамічнае становішча не зменяцца да лепшага. У адваротным выпадку «ўрокі» вясны таксама не будуць забытыя.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ.**

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ВЫЗВАЛЕНЫ З ТУРМЫ ПАД РАСПІСКУ АБ НЯВЫЕЗДЗЕ ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫЯ ВІКТАР СІЎЧЫК І ЮРЫ ХАДЫКА.**

○ ***У ДРУКУ З'ЯВІЎСЯ ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ БЮДЖЭЦЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ НА 1996 ГОД.*** *Згодна яго на адукацыю і падрыхтоўку кадраў выдзелена 2405397,9 млн. рублеў, на культуру — 294895,8 млн.рублёў, на сродкі масавай інфармацыі — 716100,0 млн.рублёў.*

○ **ВЯРНУЛІСЯ З ПАСЯДЖЭННЯ СЕСІІ ПАРЛАМЕНЦКАЙ АСАМБЛЕІ САВЕТА ЕЎРОПЫ** дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Ю.Малумаў, П.Краўчанка і С.Калякін. Паводле Ю.Малумава, беларускай дэлегацыі два дні давялося патраціць на тое, каб растлумачыць еўрапейскім парламентарыям, што мы застаёмся суверэннай дзяржавай і што наша жаданне стаць членам СЭ канчатковае і беспаваротнае. «А ў цэлым нікога там мы не хвалюем, на нашу пазіцыю не звяртаюць увагі... Мы самі вінаваты, што не ўмеем працаваць», — канстатавалі, у рэшце рэшт, дэпутаты.

○ ***З ІНІЦЫЯТЫВЫ БЕЛАРУСКАГА КАМІТЭТА МІРУ І АРГАНІЗАЦЫІ «МЕНЕРАРБАЙТ»*** *Евангелістычнай царквы з Германіі ў нашай краіне прайшоў «Тыдзень міру-96».*

○ **У МАГІЛЁВЕ БЫЎ НАЛАДЖАНЫ МІЖНАРОДНЫ ПЛЕНЭР, ПРЫСВЕЧАНЫ ВЫДАТНАМУ МАСТАКУ ВІТОЛЬДУ БЯЛЫНІЦКАМУ-БІРУЛЮ.**

Менская СШ № 102 з музычным ухілам (праспект Ракасоўскага, 9) працягвае прыём навучэнцаў у 1-4 класы па спецыяльнасцях: фартэпіяна, баян (акардэон), скрыпка, домра, балалайка, цымбалы, гітара, духавыя і ўдарныя інструменты.

Мова навучання — беларуская.

Праслухоўванне паступаючых — 25.05.96г.

Тэл. для даведак: 47-72-43; 49-57-55.

*АЛЕ!*

## Пёры. Залатыя. Простыя...

3 траўня ў Менску адбыўся традыцыйны фестываль беларускай журналістыкі «Залатое пяро». Былі названыя лаўрэаты беларускага Саюза журналістаў за лепшыя работы 1995 года. Журналістам, якім прысвоены ганаровыя званні Саюза «За выключны ўклад у развіццё беларускай журналістыкі» і «Заслужаны журналіст БСЖ», уручылі ўзнагароды. Прайшла таксама фестывальная лятучка «Грамадства — улада — прэса», адбыліся сустрэчы, бліц-інтэрв'ю, гутаркі.




**На здымку:** Старшыня беларускага Саюза журналістаў **Леанід Екель** уручае прэмію лаўрэату Саюза за лепшыя журналісцкія работы 1995 года **Сяргею Крапівіну** («Народная газета»).

Усё так. Але цікава, што са свабодных выданняў ніводзін журналіст узнагарод «не удостоился». А паміж тым, «пёры» там ёсць — дай Бог кожнаму.

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БелТА.**

## Зноў спрабуюць зрабіць гісторыю «камуністычнай»

Члены рэдкалегіі Энцыклапедыі гісторыі Беларусі М.В.Біч, А.П.Грыцкевіч, М.І.Ермаловіч, М.П.Касцюк, Г.В.Кісялёў, У.М.Конан, А.В.Мальдзіс, В.У.Скалабан, Г.В.Штыхаў распаўсюдзілі заяву, у якой выказваецца абурэнне з нагоды магчымага практычна знішчэння 3 тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». 17 красавіка, гаворыцца ў заяве, адбылося пасяджэнне рэдкалегіі гэтага выдання, якое адклікалі з друкарні пасля другой карэктуры. На гэтае пасяджэнне членаў рэдкалегіі не запрасілі (!). Увогуле, калі не лічыць нябожчыкаў Б.Сачанку і М.Ткачова, дык з 13 яе членаў, пазначаных у другім томе, у рэдкалегіі засталося чатыры чалавекі. А ў новы склад рэдкалегіі ўведзены П.Петрыкаў і А.Філімонаў. Яны, гаворыцца ў заяве, «даўно не займаюцца практычна навукова-даследчай дзейнасцю, усяляк дамагаюцца вярнуць беларускую гісторыяграфію на антынацыянальныя па іх сутнасці пазіцыі...». Рэалізацыя планаў новага кіраўніцтва БелЭН, гаворыцца ў заяве, «адкіне нашу гісторыяграфію на дзесяцігоддзі назад і, між іншым, прывядзе да поўнага канцэптуальнага разыходжання з нашымі калегамі ў Расіі і на Украіне, якія ў апошнія гады актыўна пераасэнсоўваюць і распрацоўваюць гісторыю сваіх краін менавіта з нацыянальна-дзяржаўных пазіцый».

**ПАДПІСКА:** Наша слова. Індэкс 63865

Кошт: на 6 месяцаў 30000 рублёў
на 3 — 15000 рублёў
на 1 месяц 5000 рублёў

Актуальна

**Мечыслаў ГРЫБ,**
*дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 129-й Дзятлаўскай выбарчай акругі*

# Мове беларусаў жыць!

26 студзеня 1990 года ў Беларусі адбылася вялікая падзея, якую, на мой погляд, можна аднесці да гістарычных падзей нашай краіны. Менавіта ў гэты дзень Вярхоўны Савет БССР 11-га склікання прыняў Закон «Аб мовах у беларускай ССР». Хачу падкрэсліць, што гэты закон быў прыняты дэпутатамі, якія абіраліся ў Вярхоўны Савет у 1985 годзе, пад непасрэдным кіраўніцтвам КПБ, і яны зацвердзілі ў другім артыкуле закона, што «...дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова».

У народзе кажуць, што, каб крыху зазірнуць наперад, трэба спачатку паглядзець назад. І сапраўды, калі мы азірнёмся назад, то павінны адзначыць: камуністы, якія ў тыя гады складалі пераважную большасць у Вярхоўным Савеце, добра разумелі, што азначае выраашэнне гэтага пытання для развіцця роднага краю, для нашай любай Радзімы.

Мне цяжка зараз увіць, што знойдуцца людзі, якія не пагодзяцца са словамі, запісанымі ва ўступнай частцы закона: «Мова — не толькі сродак зносін,а і душа народа, аснова і важнейшая частка яго культуры. Жывe мова — жыве народ. Кожная мова, як літаратурная, жывая мясцовая і гістарычная разнавіднасць — неацэнны скарб, які належыць не аднаму народу, а усяму чалавецтву».

На мой погляд, закон атрымаўся узважаным і добра падрыхтаваным. Складаецца ён з шасці раздзелаў і уключае 36 дэталёва распрацаваных артыкулаў. У законе вызначаецца статус не толькі беларускай мовы як дзяржаўнай, але і рускай мовы як мовы міжнацыянальных зносін.

У Пастанове Вярхоўнага Савета «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Беларускай ССР «Аб мовах у Беларускай ССР» дэпутаты Вярхоўнага Савета вырашылі ўводзіць у дзеянне палажэнні закона паступова на працягу 10 гадоў — з 1 верасня 1991 года да 1 верасня 2000 года.

Гэты дзесяцігадовы тэрмін у сваю чаргу разбіты паартыкульна на чатыры перыяды, з якіх вынікае наступнае: артыкулы 1, 2, 3, 5, 6, 9, 21, 30, 36 уводзяцца ў дзеянне з 1 верасня 1990 года; артыкулы 11, 27, 28, 29, 31, 32, 35 уводзяцца ў дзеянне на працягу трох гадоў; артыкулы 4, 7, 12 — на працягу трох—пяці гадоў; артыкулы 8, 10, 13, 14, 23 — на працягу пяці гадоў; артыкулы 15, 16, 17, 18, 19, 20, 22, 24, 25, 26 — на працягу 10 гадоў з моманту ўступлення ў сілу закона.

Усё зроблена вельмі разважліва, дакладна і зразумела.

Але дэпутаты Вярхоўнага Савета на гэтым не спыніліся, а пайшлі далей і прынялі Закон «Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі (1978 г.) (Асноўнага Закона) Беларускай ССР», у якім запісалі:

«Дзяржаўнай мовай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з'яўляецца беларуская мова.

Беларуская ССР забяспечвае свабоднае карыстанне рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін народаў Саюза ССР.

Парадак ужывання беларускай, рускай і іншых моў у Беларускай ССР вызначаецца заканадаўствам Беларускай ССР».

Як грамадзянін Рэспублікі Беларусь, як былы Старшыня Вярхоўнага Савета і як сённяшні дэпутат Вярхоўнага Савета я глыбока ўдзячны дэпутатам XI склікання за гэты закон і буду адзначаць гэта ўсюды і заўсёды.

Я сумняваюся, што сённяшнія дэпутаты здолелі б прыняць такі закон. Хаця справа і не ў гэтым.

Было б усё добра, каб не адно слова, як кажуць на Беларусі — але... Вельмі складана распрацаваць і прыняць дакладны закон па такім важным пытанні, але яшчэ больш складана, занадта складана правесці яго ў жыццё.

Аналізуючы стан выканання артыкулаў Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» пасля шасці гадоў з дня яго прыняцця, можна зрабіць ужо пэўныя вывады, на вялікі жаль, вельмі і вельмі несуцяшальныя.

Што да дзевяці артыкулаў, якія ўведзены ў дзеянне з 1.09.90 года, то трэба звярнуць увагу на тое, што большасць рэспубліканскіх і мясцовых дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый за шэсць гадоў так і не стварылі грамадзянам неабходных умоў для вывучэння беларускай і рускай моў і дасканалага валодання імі, як гэтага патрабуе пункт 5 артыкула 2.

Артыкулам шостым арганізацыя выканання Закона аб мовах ускладзена на Кабінет Міністраў і выканаўчыя камітэты мясцовых Саветаў, якія ў апошні час гэтай справай не займаюцца, а калі што і робяць, то складаецца ўражанне, што не на карысць закона, супраць яго.

З сямі артыкулаў, якія прадугледжвалася выканаць да 01.09.93 года, застаюцца часткова не выкананы тры артыкулы за нумарамі 28 (мова ў сферы культуры), 29 (мова сродкаў масавай інфармацыі) і 31 (мова аб'яў і паведамленняў).

Тры артыкулы, якія прадугледжвалася выканаць у перыяд з трох да пяці гадоў, засталіся часткова не выкананы.

Частка першая артыкула 4 (Абавязак службовых асоб, іншых работнікаў дзяржаўных органаў, прадпрыемстваў, устаноў і грамадскіх арганізацый валодаць беларускай і рускай мовамі) не выканана.

Не выконваюцца п. І і ІІ артыкула 7 (Мова актаў органаў дзяржаўнай улады і кіравання), п. І артыкула 12 (Мова з'ездаў, канферэнцый і іншых форумаў).

Выкананне артыкулаў за нумарамі 15; 16; 17; 18; 19; 20; 22; 24; 25; 26 прадугледжана да 2000 года і можна было б падрабязна не разглядаць ступень іх выкананасці, але ж неабходна адзначыць, што прайшло ўжо шэсць гадоў з моманту прыняцця Закона «Аб мовах у Беларускай ССР», а з гэтых 10 артыкулаў пакуль што толькі чатыры артыкулы — 22 (Права на выхаванне і атрыманне адукацыі на нацыянальнай мове), 24 (Мова навучання і выхавання ў агульнаадукацыйных школах), 25 (Мова навучання ў прафесійна-тэхнічных вучылішчах, сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных установах), 26 (Уступныя экзамены на мове) — часткова выкананы.

Але ў апошні час многае тое, што было дасягнута, страчана, а фактычна незаконна адменена.

На мой погляд, да травеньскага рэферэндуму 1995 года адносіны да Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» былі больш уважлівыя, патрабавальныя і строгія. Нават адзначаліся перабольшванні патрабаванняў і злоўжыванні пры ўвядзенні беларускай мовы ў школах і іншых навучальных установах.

Напрыклад, у большасці сельскіх раёнаў наогул не засталося сярэдніх рускіх школ. Хоць пэўная колькасць бацькоў і дзяцей выказвалі жаданне вучыцца ў рускіх школах. Можна было б прыводзіць і больш падобных прыкладаў. Такія падыходы людзі не разумелі. Нельга далікатную справу рабіць хуткімі тэмпамі, таму што будзе многа памылак, якія абавязкова выкарыстаюць тыя людзі, якія выступаюць супраць беларускай мовы. На вялікі жаль, так у нас і здарылася.

Пасля правядзення травеньскага рэферэндуму адносіны да закона і асабліва да беларускай мовы рэзка змяніліся ў іншы бок.

Зараз у школах пачалі пераводзіць дзяцей, якія чатыры гады (!) правучыліся на беларускай мове, у класы з рускай мовай, што, вядома, не можа адмоўна не адбіцца на навучанні.

Адпаведнае робіцца і ў іншых навучальных установах.

На вялікі жаль, не адстаюць ад дзяцей і моладзі ў гэтым накірунку і дарослыя. Я маю на ўвазе дзяржаўныя ўстановы, прадпрыемствы і іншыя арганізацыі. У розных установах і арганізацыях практычна нічога не робіцца ў арганізацыйным і тэхнічным плане для выкарыстання беларускай мовы ў якасці дзяржаўнай.

Ніхто належным чынам не кантралюе гэта пытанне. Усё радзей і радзей гучыць беларуская мова ў вышэйшых дзяржаўных установах.

Нават у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь яе рэдка можна пачуць. Дэпутаты Вярхоўнага Савета, якія добра ведаюць беларускую мову, далёка не заўсёды карыстаюцца ёю пры выступленнях, не стала абавязкам рыхтаваць праекты дакументаў на беларускай мове.

Няўжо трэба ехаць за мяжу, каб выступаць на роднай мове! Пэўна, некаторыя лічаць, што лепш, а галоўнае прасцей, карыстацца звыклай «трасянкай», чым дасканала валодаць беларускай, а таксама і рускай мовамі. Таму што мову пэўнай часткі нашага насельніцтва аднесці да чыстай рускай таксама нельга. І я ўпэўнены, што ніколі чыстай рускай мовы ў Беларусі не будзе.

Дарэчы, аб рэферэндуме, які адбыўся 14 траўня 1995 года, дзе ставілася пытанне: «Ці згодны Вы з наданнем рускай мове роўнага статуса з беларускай?» у галасаванні прынялі ўдзел 4 830 582 чалавекі, або 64,8 працэнта, 2 615 238 чалавек (35,2 працэнта) не ўдзельнічалі ў галасаванні. Акрамя таго, 613 516 (12,7 працэнта) чалавек прагаласавалі супраць і 192 693 (4,0 працэнта) бюлетэняў аказаліся несапраўднымі.

Такім чынам, становіча не выказаліся за роўнасць рускай і беларускай моў 3 421 447 чалавек — гэта амаль што палова выбаршчыкаў, якія былі ўключаны ў спісы для галасавання. Таму я лічу, што няма грунтоўнай падставы ўсюды заяўляць аб рашучай перамозе, бо тры з паловай мільёны насельніцтва — гэта нашы людзі, і не лічыцца з іх думкай нельга.

Акрамя таго, нядрэнна было б улічыць, колькі рускіх па нацыянальнасці грамадзян Рэспублікі Беларусь прынялі ўдзел у галасаванні. Тады вынікі гэтага галасавання ўвогуле станулі адмоўнымі.

Мяркую, Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь трэба дэталёва вывучыць гэту праблему і прыняць адпаведнае рашэнне.

Але пакуль што дэпутатам Вярхоўнага Савета і, у першую чаргу, Камісіі па адукацыі, навуцы, культуры неабходна ўзяць пад кантроль выкананне Закона «Аб мовах у Беларускай ССР», прынятага ў 1990 годзе, і патрабаваць ад выканаўчай улады выканання запланаваных мерапрыемстваў.

Спадзяваціца на тое, што гэта зробіць сама выканаўчая ўлада, нельга.

Тым больш што ні Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь, ні вынікі рэферэндуму не змянілі статус беларускай мовы як дзяржаўнай. У артыкуле 17 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана: «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова.

Рэспубліка Беларусь забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай як мовай міжнацыянальных зносін».

Я цвёрда перакананы, што ў Беларусі, як і ў любой іншай дзяржаве, павінна быць свая родная мова, бо калі ёсць мова — ёсць нацыя, ёсць краіна! Няма мовы — няма нацыі, няма краіны!

На мой погляд, гэтыя вывады для нас, беларусаў, маюць асаблівы сэнс і асаблівую значнасць.

Цяжка знайсці ў свеце краіну, якая будуе прававую дзяржаву і ў якой даводзілася б ствараць розныя таварыствы па абароне ці ў падтрымку роднай мовы, мовы карэннага незалежнага народа.

---

З рэдакцыйнай пошты



# У Магілёве «Ратуша», у Віцебску — «Магістрат»

Па апошніх звестках, газеце «Ратуша» ў Магілёве, якая цвёрда прытрымлівалася нацыянальна-дэмакратычнага накірунку і друкавалася на беларускай мове, мясцовыя ўлады ўпарта «перакрываюць кісларод», перашкаджаючы нармальнаму выпуску і распаўсюджванню. Ратуша — так некалі ў сярэднявечных гарадах Беларусі, якія дамагліся Магдэбургскага права, называліся выбраныя органы самакіравання — гарадская ўправы.

Не лепш жывецца і беларускім дэмакратычным выданням у Віцебску. Улады стараюцца рознымі шляхамі «не пушчаць», а прагрэсіўная грамадскасць, адчуваючы патрэбу людзей у нацыянальным друкаваным слове, робіць усё магчымае, каб яно жыло. Цяпер пачаў выходзіць «Магістрат» — «газета вольнага горада Віцебска», як пазначана ў падзагалоўку. Зноў старажытнасць у загалоўку і балючая сучаснасць у кароткіх тэкстах і «гарачых» фотаздымках. На адным з фотаздымкаў у другім нумары бачна, як міліцыянт праводзіць балявы ўдушальны прыём супраць «мітынгоўшчыка» Алеся Мудрачэнкі, які з іншымі дэмакратамі ў Дзень Канстытуцыі пад гістарычнай беларускай сімволікай выйшаў на плошчу Свабоды, каб звярнуць увагу на парушэнні законаў Рэспублікі Беларусь.

— Выкарыстанне міліцыі для падаўлення палітычнай апазіцыі, — зазначаецца ў матэрыяле пад загалоўкам «У Віцебску кепска, а ў Воршы яшчэ горш!» — зніжае прафесіяналізм міліцыянтаў... Трэніроўка на законапаслухмяных грамадзянах дае адмоўны эфект, а ў выніку пры сустрэчы з сапраўднымі бандытамі і злачынцамі ахоўнікі правапарадку атрымліваюць раненні ці ўвогуле гінуць.

**Ул.Ас.**

---

# Многае залежыць ад настаўнікаў

Пасля рэферэндуму адміністрацыя школ вядзе апытанні бацькоў — ці будуць яны далей вучыць дзяцей у беларускамоўных класах. Самі па сабе такія апытанні — гэта маральны ўціск на людзей. Нідзе ва ўсім свеце, здаецца, такога няма. Чаму шмат хто з настаўнікаў ідзе на такое, хоць і бачыць шкоду для падрастаючага пакалення, якое ў выніку страчвае нацыянальную адметнасць, духоўнасць? Настаўнікі слаба падрыхтаваныя для вядзення заняткаў на беларускай мове, а переважнаючай многім не хочацца. Так што на сённяшні дзень галоўнае пытанне адраджэння беларускамоўя — гэта скіраванасць настаўнікаў. Па свайму вопыту ведаю. Вось чаму я і прапаную сябрам ТБМ весці адпаведную работу не толькі з чыноўнікамі, а галоўным чынам з тымі, хто працуе непасрэдна ў школах.

**Валянціна РЫБАКОВА.**
г.Віцебск.

---

# Ідзём да Гарэцкага

Адбыліся V Гарэцкія чытанні. Напачатку пад вясновым сонцам на пляцоўцы перад будынкам санаторыя «Світанак» у Ждановічах выступіў дзіцячы музычны калектыў. Дзеці выканалі народныя песні ды танцы. Затым удзельнікі перайшлі да «сур'ёзнай» часткі. На пленарным пасяджэнні прысутнічалі Янка Брыль, Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч. Пляменнік М.Гарэцкага акадэмік Радзім Гарэцкі выступіў з дакладам «Максім і Гаўрыла Гарэцкія: духоўнае адзінства». Выступ дачкі пісьменніка Галіны Максімаўны Гарэцкай, якая прыехала з Санкт-Пецярбурга, называўся «Памяці бабулі Просі (маці М.Гарэцкага)», Даклад М.Ількевіча (Смаленск) «Другі арышт М.Гарэцкага, 1937 год. Невядомыя падрабязнасці» ўспрыняўся блізка да сенсацыі. Ён быў абвешчаны ўпершыню, і тое новае, што М.Ількевіч знайшоў у архівах, не было вядомае дагэтуль нават Радзіму і Галіне Гарэцкім.

Увечары 23 красавіка, прыехаўшы ў Менск, удзельнікі канферэнцыі ўсклалі кветкі да помніка М.Гарэцкаму, наведалі навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф.Скарыны, які месціцца ў былым будынку Інбелкульта, дзе ў свой час працаваў пісьменнік.

24 красавіка праца секцый прадоўжылася. Навукоўцы падавалі цікавыя звесткі, распавядалі пра адкрыцці. Прыкладам, В.Рагойша выступіў з дакладам «Назваслоўе» М.Гарэцкага», дзе разглядаецца першая ў беларускім літаратуразнаўстве спроба стварэння тлумачальніка тэрміналогіі гэтай навукі. М.Гарэцкі ў сваім «Назваслоўі» даў тлумачэнне 344 словаў. Не менш важнае і імкненне некаторых выступоўцаў да асэнсавання філасофічнасці твораў пісьменніка. Аўтарам гэтай заўвагі прачытаны даклад «Філасофія творчасці Гарэцкага», а В.Ляшук падышла нават да такой праблемы: «Філасофія мовы ў творчасці М.Гарэцкага».

Нягледзячы на складаную палітычную сітуацыю ў Беларусі, чытанні праходзілі на аптымістычнай ноце. Прынята рашэнне пра ўтварэнне Фонду братоў Максіма і Гаўрылы Гарэцкіх.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

---

Рэха

# Ёсць грэх здрады народу

Прачытаў з вялікай цікавасцю ў «Нашым слове» (№ 11, 1996) гутарку з пастырам Беларускай Евангельскай Царквы Эрнэстам Сабілам, якую вёў Альгерд Неўяроўскі, — «Бог заўсёды з добрымі і шчырымі». Вось словы, якія мне асабліва запомніліся: «Але ёсць такі грэх, які не лічыцца грахом — палітычны, грэх здрады свайму народу, свайму бліжняму, бо мой бліжні — гэта бацькі, жонка, дзеці, родзічы — і ўрэшце нацыя... І калі народ заражоны гэтым грахом, у ім не пакаяўся і ўваходзіць з ім у царкву, не лічачы гэта заганай, ці можа ён чакаць падтрымкі ў Бога?.. Мы хочам адно: каб і беларусам не затыкалі рот...» Гэта сапраўды так. Я таксама вернік Евангельскай Царквы і чытаю казанні на беларускай мове. Хай будзе вялікая падзяка нашаму Пану Езусу Хрысту! Хай вас усіх дабраслаўіць Бог!

З шчырым прывітаннем да Вас усіх брат ваш і сябар

**Мікола.**

*Рупліўцы*

# Светлая кніга

***Гэту кнігу ў вясёлай зялёнай вокладцы добра ведае наша моладзь — вучні старэйшых класаў, навучэнцы гімназій, каледжаў, тэхнікумаў, абітурыенты і нават студэнты — усе тыя, каму яна дапамагае здабываць веды і выходзіць на шырокія прасторы жыцця. Кніга вытрымала шэсць выданняў, некалькі разоў карэнным чынам дапрацоўвалася і перагледалася. Апошняе выданне (1995), па якім сёлета працуе школа, успрымаецца не як перапрацаванае і дапоўненае, а як зусім новая арыгінальная кніга: тут новы матэрыял займае каля 70 працэнтаў, ён значна ўзмацняе адукацыйны, пазнавальны і выхаваўчы аспекты працы. Свежы ветрык адраджэння, які прайшоў праз душы і сэрцы рупліўцаў роднага слова, паспрыяў напісанню многіх светлых старонак для гэтай кнігі, якая афіцыйна называецца так: «Беларуская мова. Дапаможнік для вучняў старэйшых класаў». Сёння з намі гутарыць аўтар — Марыя Цімафееўна Кавалёва, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага педагагічнага універсітэта імя М.Танка.***




**— Марыя Цімафееўна, у якасці першага рэдактара «Беларускай мовы» я была сведкам таго, у якіх драматычных умовах яна рыхтавалася ў свет. Памёр ваш сааўтар, Л.І.Падгайскі, і Вы адна на працягу года дапрацоўвалі, «дацягвалі» рукапіс да адпаведнага ўзроўню, каб здаць яго ў друк. Крытыка сустрэла працу прыхільна. Кніга 1995 г. таксама ацэнена ў друку вельмі высока. Грамадская экспертыза прызнае, што на сённяшні дзень з усіх раней створаных аналагічных падручнікаў Ваш найбольш адпавядае ідэальнай мадэлі дапаможніка для вучняў старэйшых класаў. Нам хацелася б зараз ад Вас пачуць, ці ёсць пераемнасць дапаможніка «Беларуская мова» з падручнікамі, па якіх школьнікі вучацца ў V — IX класах?**

— Такая пераемнасць, зразумела, ёсць. У дапаможніку падаецца сістэматычны выклад усіх раздзелаў школьнага курса беларускай мовы. Вучні будуць мець магчымасць не толькі ўзнавіць у памяці раней вывучаны матэрыял, але і сістэматызаваць, замацаваць і паглыбіць веды. Кожная тэма — гэта як бы новая, больш высокая прыступка ў разуменні, засваенні моўных з'яў, моўных законаў. У гэтым сэнсе дапаможнік універсальны, ён можа шырока выкарыстоўвацца ў асяроддзі навучэнцаў усіх катэгорый.

**— Чым выклікана паглыбленне тэарэтычнага матэрыялу, увядзенне новых параграфаў у дапаможнік?**

— У апошні час у нашым грамадстве адбыліся змены, беларуская мова набыла статус дзяржаўнай. Адсюль і вывучэнне яе павінна быць узнята на новую, больш высокую ступень. Прычынай дапрацоўкі стала і тое, што ў апошні час узніклі навучальныя ўстановы, у якіх мова вывучаецца паглыблена (гімназіі, каледжы, ліцэі, а таксама гуманітарныя класы). Паглыбленае вывучэнне мовы дапамагае развіццю мыслення вучняў, павышэнню ўзроўню іх моўнай культуры, дапамагае ўсвядоміць мову як сістэму, як складаную грамадскую з'яву, якая мае сваю гісторыю і свае законы, дапамагае фарміраваць асобу. З гэтай мэтай, напрыклад, быў пашыраны, паглыблены раздзел «Агульныя звесткі аб мове», уключаны асобныя параграфы «Фарміраванне мовы беларускай народнасці» і «Беларуская мова на сучасным этапе». Расказваецца пра старажытныя пісьмовыя помнікі («Літоўскую метрыку», полацкія граматы і інш.), пра помнікі беларускага кнігадрукавання (выданні Скарыны і яго паслядоўнікаў, Статуты Вялікага Княства Літоўскага, дзелавыя дакументы і інш.), пра развіццё стыляў беларускай літаратурнай мовы (мастацкага, навуковага, публіцыстычнага) у літаратуры XIX і XX стагоддзяў. Увага скіроўваецца на працэсы беларусізацыі і ролю гістарычных асоб, якія дабратворна паўплывалі на станаўленне і развіццё нашай мовы. Не ўпускаюцца пры гэтым агульныя задачы: пашыраць кругагляд вучняў, павышаць культуру іх мовы, выхоўваць пашану і любоў да яе як да нацыянальнага скарбу. Наогул усе раздзелы пашыраны, узбагачаны новым матэрыялам. Асноўныя раздзелы пачынаюцца з агульных звестак пра іх: «Агульнае паняцце пра лексіку», «Марфалогія як раздзел граматыкі», «Сінтаксіс як раздзел граматыкі». Даецца паняцце граматыкі як вучэння аб слове і яго формах, аб часцінах мовы і іх катэгорыях, аб сувязях слоў, аб словазлучэнні і сказе. Паказваецца, што слова вывучаецца і ў марфалогіі, і ў лексікалогіі, аднак вывучаецца па-рознаму. Прыкладам папаўнення асобных параграфаў можна назваць параграф «Нескланяльныя назоўнікі», у якім падаецца ўжыванне назоўніка «маці» ў двух варыянтах. Паводле аднаго, гэты назоўнік не скланяецца і не змяняецца па ліках; паводле другога — ва ўсіх ускосных склонах адзіночнага ліку, акрамя вінавальнага, і ва ўсіх склонах множнага ліку ён атрымлівае ўстаўку -ер- і скланяецца. Гэта форма зафіксавана ў жывой мове і ў мове мастацкай літаратуры.

**— Ці ёсць у дапаможніку зусім новыя тэмы, якія не вывучалі вучні ў V—IX класах і якія не прадугледжаны школьнымі праграмамі?**

— Так, новыя тэмы ёсць. У раздзеле «Дзеяслоў» ёсць новы параграф — «Станы дзеяслова». Гутаркі з настаўнікамі, метадыстамі пераканалі мяне ўключыць гэты матэрыял. Справа ў тым, што вучні вывучаюць дзеепрыметнікі незалежнага і залежнага стану, адсюль і пытанне: «А што такое стан?» Я пастаралася выкласці яго ў папулярнай, даступнай форме. Аднак вучням не абавязкова засвойваць гэты матэрыял, ім можна карыстацца як даведачным. У раздзеле «Прыслоўе» выдзяляецца асобным параграфам тэма «Прэдыкатыўныя прыслоўі». У «Сінтаксісе», лічу, вельмі патрэбныя наступныя тэмы: «Некаторыя асаблівасці кіравання ў беларускай мове», «Размежаванне галоўных членаў сказа», «Парцэляцыя», «Перыяд», «Складанае сінтаксічнае цэлае», «Абзац» і інш. Усе такія тэмы ў значнай ступені пашыраюць лінгвістычныя веды вучняў. Настаўнік сам павінен вызначыць, у якой ступені даваць такі матэрыял, улічваючы падрыхтаванасць вучняў і адукацыйныя задачы.

**— Значную частку вашага дапаможніка складае практычны матэрыял. Раскажыце пра яго больш падрабязна.**

— У многіх выпадках практычная частка дае магчымасць не толькі замацаваць пэўны тэарэтычны матэрыял, але і дапоўніць яго зместам тэкстаў з навуковых крыніц. Так, раздзел «Уводзіны» пашыраецца ўрыўкамі пра пісьмовыя помнікі XIV—XV і XVI—XVII стст. («Нарысы па гісторыі беларускай мовы»), пра кнігадрукаванне ў XVI ст. на Беларусі (Ф.Янкоўскі), пра Статут Вялікага Княства Літоўскага (І.Юхо, М.Прыгодзіч); «Фразеалогія» — урыўкамі з прац Ф.Янкоўскага і І.Лепешава і інш. Для замацавання тэмы «Параўнальныя звароты» даецца ўрывак з працы М.А.Базыленкі «Параўнальныя словазлучэнні ў сучаснай беларускай літаратурнай мове». Вучні на гэтым матэрыяле пашыраюць веды пра параўнанне, назіраюць, як аналізуюцца моўныя з'явы. Тэму «Асноўныя слоўнікі беларускай мовы» дапаўняюць здымкі на фарзацы дапаможніка.

Практычны матэрыял нясе шматлікія інфармацыі пра нашу гісторыю, пра Вялікую Айчынную вайну, культуру, знакамітых людзей, родную прыроду, — інфармацыю, якая спрыяе пашырэнню кругагляду вучняў, павышэнню іх культуры мовы і выхоўвае беларускасць. Такога роду тэксты даюцца пра беларускія летапісы і беларускія друкарні, як ужо гаварылася вышэй, пра князёўну Рагнеду, старажытнага пісьменніка К.Тураўскага, артыста І.Буйніцкага, пра М.Багдановіча, І.Мележа, пра оперу Манюшкі «Сялянка» па творы Д.Марцінкевіча, пра «Мужыцкую праўду» К.Каліноўскага і інш. Тэксты практыкаванняў значна абноўлены, спіс аўтараў твораў, з якіх браліся тэксты і сказы, дапоўнены. У практыкаваннях звяртаецца ўвага не толькі на замацаванне тэмы, а і на стылістычныя функцыі слоў, гукаў, выразаў. Вялікая ўвага аддаецца развіццю культуры мовы. Заданні даюцца на напісанне сачынення ў форме разважання, апавядання, апісання, на параўнанне розных рэдакцый аднаго і таго ж твора і г.д.

**— Марыя Цімафееўна, з якім настроем Вы працавалі над кнігай?**

— Кнігу гэту я пісала з добрым настроем, цеплынёй і вялікай любоўю да Беларусі, да свайго народа, да роднага слова. І мне здаецца, што гэтая любоў і цеплыня дойдуць да сэрца кожнага з тых, хто ёю будзе карыстацца, што яна дапамажа лепш авалодаць беларускай моваю.

**Падрыхтавала Ірына КРЭНЬ.**

*РЭХА*

# Беларусы — зноў «хлопчыкі для біцца»?

Згодны з шэрагам газетных публікацый, у якіх станоўча ацэньваецца першы нумар новага выдання — беларускай праваабарончай газеты «Круг». Але ў гэтай, вобразна кажучы, бочцы мёду не абышлося без лыжкі дзёгцю. У яе, славутую, ператварылася, на мой погляд, «Меркаванне «К» (г.зн. «Круга»), што завяршае старонку судовага сюжэта ў дакументах пад прэтэнцыёзнай шапкай: «Свобода слова, но не чушь собачья». Гэтая «чушь», а таксама іншыя не надта прыемныя выразы, якія сустракаюцца ў тэксце рэдакцыйнага «Меркавання», тычацца артыкула «Здрада», надрукаванага газетай ТБМ імя Ф.Скарыны «Баранавіцкае слова» ў снежні 1993 года. Яго аўтар (ён жа і рэдактар згаданага выдання) А.Блінкоўскі асуджаны восенню мінулага года «за разжигание национальной вражды и розни». Як зазначаецца ў «Комментарии юриста», нікога яшчэ не прыцягвалі ў нас да судовай адказнасці па гэтым артыкуле Крымінальнага кодэкса, бо не лічылася, што хтосьці распальвае варожасць паміж расійцамі і беларусамі. І вось, дадам ад сябе, злачынец, нарэшце, схоплены за руку...

Не намераюся апраўдваць некарэктныя выказванні баранавіцкага журналіста, які, відаць, імкнуўся, гаворачы словамі таго ж юрыста, «поярче выразиться». І калі б гнеў аўтара «Меркавання «К» быў выкліканы тымі выказваннямі, дык я не стаў бы пісаць гэтыя радкі. Але ж ён абураецца тым, што Блінкоўскі нагадаў апублікаваныя ў 1993 годзе ў «Народнай газеце» лічбы, якія сведчаць пра дыскрымінацыю карэннай нацыі краіны ў розных сферах нашага жыцця. Зразумела, сённяшняя «НГ» такія звесткі па вядомых прычынах ні ў якім разе не стала б абнародаваць (нават у нататцы пра нядаўнюю навуковую канферэнцыю «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі» яна пастаралася, з дапамогай БелТА, абысціся без крамольнага слова «дыскрымінацыя»). Але ж гэта не падстава для праваабарончага выдання, каб непажаданыя ўладзе лічбы без усялякіх доказаў абвяшчаць «дамарошчанай, нематываванай, перавернутай «статыстыкай» (апошнія слова, зважаце, узятае ў двукоссе), «друкаванай дурнотай» і г.д.

Не менш здзівіла мяне і шкадаванне «Круга» наконт таго, што журналісту вынесены «смехотворный прыговор». Інакш кажучы, мала далі! Галоўнае, аднак, думаецца, не ў мяккасці ці суровасці пакарання, а ў тым, што з'явіўся судовы прэцэдэнт, які можа саслужыць нядобрую службу беларускай прэсе, калі яна будзе пратэставаць, напрыклад, супраць русіфікацыі краіны.

Хацелася б памыліцца, але стварaецца ўражанне, што газета «Баранавіцкае слова» праваабаронцамі з «Круга» фактычна пастаўлена на адну дошку з камуністычным «Товарищем», які таксама выдаецца ў Баранавічах. Маўляў, «спачатку кусалі адно другое» гэтыя газеты, а «затым сцэнка на сцэнку пайшлі «дэмакратычныя» і «камуністычныя» масы, нацкаваныя (?) сваімі друкаванымі органамі».

Кулачныя бойкі — справа, вядома, дрэнная. Што ж да «кусання», дык дазвольце заўважыць, што «Баранавіцкае слова» якраз выхоўвае павагу і любоў да чалавека, да мовы карэннай нацыі, а «Товарищ» прыніжае і дыскрымінуе яе. Да прыкладу, я прачытаў у ім такія пасажы: «Белорусы всегда говорили по-русски с вкраплениями слов из местных диалектов»; «На древнерусскую основу языка Скорины напластовали польские, немецкие и шведские слова, получив современный литературный белорусский язык». І гэта яшчэ не самае крыўднае для нацыянальна свядомых беларусаў з таго, што сустракаецца на старонках камуністычнага выдання.

«Баранавіцкае слова», лічу, правільна тлумачыць чытачам: калі чалавек пагарджае моваю другога чалавека, дык ён з пагардай ставіцца і да носьбітаў гэтай мовы, да іх права шанаваць сваю гістарычную спадчыну, будаваць сваю незалежную нацыянальную дзяржаву. Само сабой, беларуская дэмакратычная газета не можа абыякава ставіцца да амаральных, а то і злачынных выказванняў імперцаў, русіфікатараў і проста Іванаў без роду і племені. Што, ім непрыемна слухаць і чытаць пра сябе праўду? Дык яна ж заўсёды вочы коле...

На жаль, «Круг» абышоў бокам і некаторыя абставіны, звязаныя з судом над А.Блінкоўскім. Напрыклад, калі звесткі, прыведзеныя ім у артыкуле «Здрада», сапраўды, як сцвярджаецца ў «Меркаванні», «атручваюць чалавека беспадстаўнай нянавісцю да другога чалавека», дык чаму судовы працэс адбыўся аж праз 21 месяц пасля згаданай публікацыі? Можа, справа ўсё ж не столькі ў «атручванні», колькі ў *палітычнай кан'юнктуры, у імкненні выкапаць* адпаведны сацыяльны заказ? І галоўнае: чаму, нягледзячы на заўсёдашнія антыбеларускія праявы і настроі з боку чыноўнікаў усіх рангаў, дзяржаўных і іншых прарасійскіх СМІ, на шматлікія факты адкрытай беларусафобіі на бытавым узроўні, — чаму нашы праваахоўныя органы практычна нічога не робяць, каб абараніць і законныя, канстытуцыйныя правы зняважаных беларусаў?

Зрэшты, шмат што прасвятляюць на гэты конт развагі Васіля Быкава, якімі пачынаецца першы нумар новага выдання, а таксама публікацыя Карласа Шэрмана, якая завяршае яго. Жывой ілюстрацыяй да іх думак з'яўляюцца, дарэчы, і апошнія падзеі ў Менску, калі, у прыватнасці, «вартавыя» парадку білі дубінкамі і затрымлівалі людзей толькі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ.**
г.Менск.

*Меркаванні*

# Расійскай мове — статус замежнай

Цяпер у Беларусі, як вядома, у школах вывучаюцца розныя замежныя мовы, пераважна англійская, нямецкая, французская. Задумаемся: ці ўсім дзецям лёгка вучыць любую з іх? Не, не ўсім. Сярод школьнікаў ёсць тыя, каму наогул цяжка даюцца мовы. Вывучэнне ж нейкай заходнееўрапейскай мовы — цяжар для іх. Але ж усё роўна трэба і такім даць магчымасць атрымаць сярэднюю адукацыю. Таму, магчыма, варта было б дазволіць здаваць расійскую мову, якую трэба вывучаць як замежную. Я не прапаную паслабіць яе вывучэнне. Проста, трэба надаць ёй статус замежнай. У нас пра гэта рэдка задумваюцца. У школах Расіі, акрамя школ для нацменшасцяў, выкладаюцца расійская і адна заходнееўрапейская мовы. У Беларусі ж школьнікі змушаныя вучыць беларускую, расійскую і таксама любую з заходнееўрапейскіх моваў, што ўключаныя ў праграму. (Вядома, здольныя школьнікі, студэнты могуць вывучаць і некалькі моў.)

Паводле звестак з зацемкі «Do you speak English» («Свабода», № 29, 1996), у Беларусі 97 адсоткаў насельніцтва валодае расійскай моваю у ступені, дастатковай дзеля моўнага кантакту; польскай — 10, украінскай — 7, англійскай — 5 адсоткаў. Што да беларускай, дык ёю ў такой ступені валодае 85 адсоткаў. Вядома ж, каб здаваць расійскую як замежную мову, трэба ўваходзіць у лік гэтых 85 адсоткаў, бо пераклад трэба абавязкова рабіць па-беларуску.

Акрамя таго, хачу нагадаць, што расійская мова — афіцыйная рабочая мова ААН (разам з англійскай, арабскай, іспанскай, кітайскай, французскай). Лічыцца, што ёй карыстаецца ў свеце 0,5 млрд. чалавек. На Захадзе дый ва ўсім свеце больш папулярная англійская мова, якая даўно стала міжнароднай. Але веданню расійскай мовы там таксама надаюць значэнне.

Такім чынам, калі лічыць, што ў нас беларуская мова — адзіная дзяржаўная, як вынікае з 17-га артыкула Канстытуцыі РБ, дык трэба канстатаваць факт таго, што амаль усе грамадзяне нашай краіны ведаюць замежную мову. Проста цудоўна!

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

Галіна СЯРГЕЕВА

Згадкі

# Беларусы ў бітве пад Монтэ-Касіна

У траўні 1944 года гара Монтэ-Касіна чырванела не толькі дзікарослымі макамі, але і крывёю змагароў з фашысцкай навалай — маладых, прагных жыцця хлопцаў, у тым ліку беларусаў. У гэтым пекле ім мроілася надзея на звычайныя чалавечыя радасці, спадзяванні на шчаслівы лёс. Ішоў заключны этап вядомай на Захадзе вайсковай аперацыі саюзнікаў, пачатай у студзені 1944г. Тое наступленне, пад час якога саюзнікі сутыкнуліся з моцнай абаронай праціўніка і панеслі вялізныя страты, захлынулася каля гары Монтэ-Касіна. Тут гітлераўцы зацята супраціўляліся, спрабуючы засланіць дарогу на Рым, адцягнуць яго вызваленне. У лютым-сакавіку 1944 г. 8-я брытанская армія, якая змяніла 5-ю амерыканскую, страціла тут шмат сваіх салдат і афіцэраў. Ноччу з 11 на 12 траўня пачалася рашаючая акцыя прарыву нямецкай абароны, што атрымала назву «крык дзікіх гусей». Беларус з-пад Будслава Пётра Сыч праз шмат гадоў успамінаў: «Цёплая вясенняя ноч, водыр красак і маладога лісьця, салаўіныя пералівы — усё гэта, здавалася, хацела нас пераконваць, што жыццё прыгожае, чароўнае, што ня трэба йсці ўміраць, што гэтая недалёкая артылерыйская кананада — абраза Бога й прыроды. Пад салаўіны вясьняны марш мы, урэшце, пайшлі...». Пётра Сыч не толькі прадчуваў, але і ўсведамляў, што многія палягуць у «жахлівай бітве», у якой «беларусы шчодра абмылі сваёю крывёю шурпатыя, дзікія горы каля манастыра Монтэ-Касыно». Так, беларусы, выхадцы з Беларусі ўдзельнічалі ў бітве пад Монтэ-Касіна ў складзе 2-га польскага корпуса (пад камандаваннем генерала У.Андэрса) 8-й брытанскай арміі. Але не спяшайцеся гартаць савецкія, ды і цяперашнія айчынныя навуковыя працы і даведнікі. Нават у грунтоўных даследаваннях знойдзеце толькі скупыя радкі пра бітву пад Монтэ-Касіна. Ды ці толькі пра яе. Да апошніх гадоў, у савецкай, у тым ліку і беларускай гістарыяграфіі, Вялікая Айчынная вайна вырывалася з кантэксту сусветных падзей таго часу, найбольш значных бітваў саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі. І да гэтага часу мы няшмат што ведаем пра змаганне беларусаў у войсках дзяржаў антыгітлераўскай кааліцыі, нацыянальна-вызваленчай арміі Югаславіі і партызанскім руху на Балканах, гарыбальдзійскіх брыгадах Італіі, ды ўвогуле заходнееўрапейскім антыфашысцкім руху Супраціўлення. Зусім абыходзіўся навукоўцамі ўдзел беларускіх эмігрантаў у барацьбе з гітлераўскімі захопнікамі на заходніх франтах Другой сусветнай вайны.

Між тым, даследнік гісторыі беларускай эміграцыі, наш суродзіч у ЗША В.Кіпель сведчыць, што ў баях з германскімі войскамі праявілі мужнасць сотні амерыканскіх беларусаў. У французскую армію былі мабілізаваны звыш 6 тысячаў беларусаў, галоўным чынам эмігрантаў з Заходняй Беларусі. Польскі эміграцкі ўрад па дамове з кіраўніцтвам Францыі пачаў арганізацыю нацыянальных фарміраванняў, пры гэтым настойваў, каб польскія грамадзяне беларускага і ўкраінскага паходжання залічваліся ў іх. Насуперак гэтаму нацыянальная беларуская арганізацыя «Хаўрус беларусаў у Францыі» хадайнічала перад французскімі ўладамі аб дазволе беларусам паступаць у французскую армію, спадзеючыся на сфарміраванне беларускіх нацыянальных аддзелаў. У выніку гэтых намаганняў беларусы — былыя польскія грамадзяне атрымалі права свабоднага выбару. Берлінская газета «Раніца» (1940, 28 студз.) паведамляла, што больш паловы іх было залічана ў французскія фарміраванні, а астатнія — у польскі легіён як выхадцаў з польскай дзяржавы. Пасля захопу немцамі Парыжа польскі эміграцкі ўрад перамясціўся ў Лондан, а яго войска ўлілося ў брытанскую армію. Эміграцкі даследнік, беларус В.Сянькевіч вызначыў колькасць беларусаў, якія ў польскіх фарміраваннях ваявалі супраць гітлераўцаў, лічбай у 30867 асоб. «Яны змагаліся супраць нямецкіх войскаў у Афрыцы пад Тобрукам, у Італіі пад Монтэ-Касіна, Форлі і ў іншых месцах у Заходняй Еўропе, — адзначае наш суродзіч С.Будкевіч, які служыў у арміі У.Андэрса, а цяпер жыве ў Англіі. — Яны паклалі свае галовы ў бітвах на славу Польшчы і еўрапейскіх народаў супраць гітлераўскай Германіі».

З тых, хто ваяваў у польскіх фарміраваннях, больш за 2 тыс. ураджэнцаў Беларусі (а з іх больш як 1700 беларусаў) загінулі на заходніх франтах Другой сусветнай вайны. У Другім польскім корпусе пад началам генерала У.Андэрса налічвалася да 12 тыс. беларусаў. Гэта паводле дадзеных польскага боку, які наўрад ці можна падазраваць у перабольшванні ліку беларусаў, хутчэй наадварот. Як жа сталася, што ў гэты корпус трапіла так багата беларусаў? Калі полымя Другой сусветнай вайны сягнула за межы СССР, паміж савецкім кіраўніцтвам і польскім эміграцкім урадам У.Сікорскага ў Лондане было заключана пагадненне (жнівень 1941 г.), паводле якога пачалося фарміраванне на тэрыторыі СССР польскага войска для барацьбы з гітлераўскімі акупантамі. Пры гэтым была дасягнута дамоўленасць аб залічэнні ў яго былых польскіх вайскоўцаў, захопленых пры далучэнні Заходняй Беларусі, а таксама беспадстаўна дэпартаваных углыб СССР жыхароў далучаных тэрыторый. Толькі ў лютым-чэрвені 1940 года ў Сібір і Поўнач выселена больш за 100 тысяч чалавек. Сярод вайскоўцаў і высяленых было многа беларусаў. У сувязі з савецка-польскімі дамоўленасцямі Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прыняў указ аб амністыі былых польскіх грамадзян, якія знаходзіліся ў турмах, канцлагерах, спецпасяленнях. Беларускі эмігрант М.Швэдзюк прыпамінае: «Пасля гэтак званай амністыі (бо як можа амністыя датычыцца да людзей, якіх вывезлі на катаргу, без суда) тысячы беларусаў кідалі лагеры зняволення і ехалі да польскіх прызыўных пунктаў. Ехалі яны не з якіх-небудзь патрыятычных пачуццяў, каб ваяваць за Польшчу, а проста, каб ратаваць сваё і сваіх сем'яў жыццё» («Беларус», 1994, люты). Але беларусам і ўкраінцам — былым грамадзянам Польшчы няпроста было трапіць як з-за пазіцый савецкага, так і польскага боку. Таму, ратуючы сябе, беларусы запісваліся палякамі і такім чынам траплялі ў армію генерала У.Андэрса. «Найлепш можна было пераканацца пра гэта ў час праваслаўных богаслужбаў у Другім корпусе ў Італіі, на якіх можна было сустрэць ад лейтэнантаў да палкоўнікаў, што гаварылі на чысцюсенькай беларускай мове й беларускасці зусім не цураліся. Былі беларусы й сярод генералаў, прынамсі яны былі беларускага паходжання, пра што самі гаварылі й нават ганарыліся», — падкрэслівае эміграцкі даследнік В.Сянькевіч («Зважай». 1978, № 1 (9).

У складзе гэтай арміі яны пакінулі СССР пасля пагаршэння, а затым і разрыву (у красавіку 1943г.) адносін паміж савецкім і эміграцкім польскім урадамі. З'ехалі, нягледзячы на агітацыю адпаведных органаў, скіраваную на тое, каб беларусы, украінцы, яўрэі заставаліся ў СССР і запісваліся ў Войска Польскае. У сакавіку-красавіку 1942 г. польскія фарміраванні накіроўваюцца ў Іран, затым у Ірак (тут яны перайменаваны ў 2-гі польскі корпус), Палесціну, Егіпет. У лютым-сакавіку 1944 г. корпус Андэрса прыбыў у Італію, дзе і здабыў сабе славу пад Монтэ-Касіна. «Пачаць штурм нямецкіх пазіцый на гары Касіно было даручана палякам, — падкрэслівае Дж.Эрман у кнізе «Вялікая стратэгія» (М., 1958)... Перамога пад Монтэ-Касіна праклала дарогу на Рым. Праз пекла баёў пад Монтэ-Касіна прайшлі беларусы П.Конюх, П.Сыч, сотні іншых. У жорсткім баі тут быў паранены І.Жылюк. Чатырма медалямі, у тым ліку і за ўдзел у баях пад Монтэ-Касіна, узнагароджаны В.Жук-Грышкевіч.

Але многія нашы суродзічы загінулі і знайшлі апошні прытулак на мясцовых вайсковых могілках. Беларуская эміграцыя захоўвае памяць аб іх. П.Сыч прысвяціў удзелу беларусаў у баях пад Монтэ-Касіна свой апавяд-успамін «Сьмерць і салаўі», выданы ў Мюнхене ў 1965 годзе (цяпер чытач можа пазнаёміцца з ім у часопісе «Полымя» (1995, № 8, 9). Зберажэннем памяці пра тых, хто загінуў у барацьбе з фашызмам, стаў і «Сьпіс беларусаў, зьлеглых у баю пад Монтэ-Касіно». Ён уключае 264 прозвішчы і змешчаны ў трох нумарах беларускамоўнай газеты «За волю» (1951 г., 25 чэрвеня, 25 ліпеня і 5 верасня), якая выдавалася ў Парыжы на Францыю, Бельгію, Вялікабрытанію. Пасля заканчэння вайны польскі корпус быў пераведзены ў Англію, а ў 1946—1947 гг. расфарміраваны. Шмат выхадцаў з Заходняй Беларусі накіраваліся ў Польшчу, вярнуліся ў СССР, бо не хацелі верыць у магчымасць рэпрэсій. Але тыя вайскоўцы з корпуса Андэрса, што вярнуліся ў БССР, былі рэпрэсаваны: разам з сем'ямі выселены за межы рэспублікі, а маёмасць іх канфіскавана. Падазронасць, недавер, адчужанасць, неабгрунтаваныя дэпартацыі зведалі яны спаўна, як і іншыя савецкія людзі, якія ваенным ліхалеццем былі занесены за граніцу. Толькі пасля амністыі 1955 г. андэрсаўцы былі памілаваны і пачалі вяртацца на родныя землі. Рэабілітацыя іх пачалася значна пазней. Так, В.Матук і І.Вярбіцкі са Скідальшчыны дачакаліся яе толькі ў пачатку 70-х. Працэс рэабілітацыі прадаўжаецца і цяпер. Між тым, на Захадзе баявыя заслугі польскага корпуса Андэрса атрымалі шырокае прызнанне, у тым ліку і дзякуючы выданню трох тамоў рэпартажаў з-пад Монтэ-Касіна вядомага польскага пісьменніка і публіцыста М.Ваньковіча, родам з Меншчыны. Свет памятае і шырока адзначае гадавіны, асабліва юбілейныя, бітвы пад Монтэ-Касіна. Надзвычай урачыстымі былі 50-я ўгодкі гэтай падзеі, на якой прысутнічалі высокія дзяржаўныя дзеячы, вайсковыя дэлегацыі, прадстаўнікі ўсіх народаў, што заваёўвалі перамогу пад Монтэ-Касіна, адбыўся парад войскаў саюзнікаў.

Упершыню з Беларусі на святкаванне выязджалі 4 прадстаўнікі. У.Палто і І.Булгак, якія служылі ў польскіх узброеных сілах, удзельнічалі ў баях, атрымалі брытанскія ўзнагароды. З нагоды 50-гадовага юбілея бітвы пад Монтэ-Касіна грамадскасць Гродна ў траўні 1944 г. арганізавала адпаведныя мерапрыемствы. Беларусь афіцыйная ніяк не адгукнулася на гэтую падзею ў гісторыі Другой сусветнай вайны, да якой спрычыніліся і беларусы. Гэта быў іх шлях да Беларусі, якая марылася ім тады краінай вольнай і незалежнай. Шмат хто з іх спачывае вечным сном далёка ад Беларусі, на чужыне, на могілках пад Монтэ-Касіна, Каса-Масіма, Ларэта, Балоньяй і ў іншых месцах. Хай будзе ўшанаваннем іх светлай памяці, нашай удзячнасці ім публікацыя спіса тых, хто назаўсёды застаўся на італьянскай зямлі. Таксама, як і шчырай удзячнасцю тым зямежным суродзічам, што склалі гэты спіс, захаваўшы імёны загінуўшых у барацьбе з фашызмам для іх родных і для нас, нашчадкаў.

(Спіс будзе надрукаваны ў наступным нумары «НС»).

*У свеце*

# Балгарыя: паміж Расіяй і Еўрапейскай супольнасцю

Тое, што на старонках беларускага друку шмат месца займаюць паведамленні з суседняй Расіі, не выклікае подзіву, бо інтэграцыя з усходнім суседам з лозунга ператвараецца ў рэальнасць. Але ці ёсць у свеце іншыя краіны, якія сваім сувязям з Расіяй надаюць гэтак жа шмат увагі? Прынамсі адна — можна адказаць на гэтае пытанне. Сёння ва Усходняй Еўропе ёсць краіна, друк якой колькасцю інфармацый аб жыцці Расіі можа паспаборнічаць з беларускім. Гэтая краіна — Балгарыя. А ўвага, якую тамтэйшыя мас-медыя надаюць Расіі, — вынік новай знешняй палітыкі кіруючай у краі сацыялістычнай партыі, якая ў студзені 1995 года выйграла выбары, атрымаўшы абсалютную большасць месцаў у парламенце.

Балгарская сацыялістычная партыя ўзнікла сем гадоў таму, калі пасля ўпадку Тодара Жыўкава новую назву ўзяла сабе камуністычная партыя Балгарыі. Новыя сацыялісты абвясцілі сябе пераемнікамі старых камуністаў. Магчыма, якраз таму ў Балгарыі не адбылося таго, што было ў Польшчы, Чэхіі ды іншых краінах савецкага блока, — камуністы не прызналі перад народам віны за злачынствы, здзейсненыя імі за дзесяцігоддзі панавання. Таму і былы балгарскі лідэр Тодар Жыўкаў, які ў 1992 годзе быў асуджаны на сем гадоў зняволення за злоўжыванні пасадай, вынікам якіх сталі гіганцкія страты нацыянальнай эканомікі і яго асабістае ўзбагачэнне, у 1995 годзе выйшаў на волю. Вярхоўны суд Балгарыі скасаваў ранейшы прысуд, абялівшы Жыўкава і яго мінулае. Мала таго, цяпер 84-гадовага старога збіраюцца вылучыць у якасці кандыдата на бліжэйшых прэзідэнцкіх выбарах. Але і без таго большасць сяброў балгарскага ўрада з'яўляюцца былымі камуністамі — цяперашнімі сацыялістамі. Яны абяцаюць грамадзянам росквіт, сацыяльную справядлівасць, рост даходаў ды іншыя даброты.

Праўда, выканана з гэтых абяцанняў няшмат. Сёння Балгарыя знаходзіцца ў стане эканамічнага спаду. А галоўнае, акрамя эканамічных праблем, у краіне з'явіліся праблемы палітычныя. Усё пачалося ў першых датах красавіка з ускоснай прапановы прэзідэнта Расіі далучыць Балгарыю да працэсу інтэграцыі, палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва ў рамках СНД. Гэтая прапанова ўзнікла не на пустым месцы: у сакавіку Маскву наведаў кіраўнік балгарскага ўрада Жан Ведзенаў. Гэты былы камуніст выказаў свае сімпатыі да Расіі і шмат гаварыў пра адметнасць адносінаў паміж Балгарыяй і Расіяй. Як палічылі многія балгары, прапанова Ельцына стала вынікам разумення ім пазіцыі цяперашняга балгарскага ўрада і парламента, сябры якіх «не мысляць» існавання Балгарыі без Расіі.

Сітуацыя ў нейкай ступені нагадвае беларускую, але з адным істотным адрозненнем. Балгарыя — усё ж краіна, маючая самастойную і мала залежную ад расійскай эканоміку. Сёння Расія вінаватая Балгарыі сто мільёнаў долараў, нягледзячы на тое, што балгарскі імпарт з Расіі ўтрая пераўышае экспарт у адваротны бок.

Але ці ўхваляюць балгары арыентацыю свайго народа на Маскву? Адказам на гэтае пытанне можа стаць вынік спрэчак, што разгарнуліся вакол «Алёшы» — помніка савецкаму салдату ў Плодвіве. У горадзе, другім па велічыні ў краіне, прынятае рашэнне знесці помнік — гэта знаходзіцца ў кампетэнцыі мясцовай грамады. Вынікам сталі перамовы на высокім узроўні. Супраць рашэння гараджанаў выступіла як кіраўніцтва Расіі, так і ўрад Балгарыі, нягледзячы на тое, што помнікі савецкім салдатам у краіне даглядаюцца значна лепш, чым балгарам — ахвярам сталінскіх чыстак.

Усё ж такі погляды грамадства на гісторыю расійска-балгарскіх дачыненняў мяняюцца. Пасля 1989 года ў краіне пачалі гучаць выказванні аб тым, што ў час Другой сусветнай вайны Савецкая Армія была не вызваліцельніцай. Менавіта таму жыхары Плодвіва не жадаюць мець у сваім горадзе помніка «заваёўніку», а прамова Ельцына выклікала ў Сафіі шэраг стыхійных шэсцяў — выказаў нязгоды. Балгары не забылі, што менавіта савецкая акупацыя вымусіла ў 1946 годзе адракчыся ад царства і пакінуць краіну цара Сімеона II, што менавіта яна ў 1944 годзе прывяла да ўлады камуністаў, якія не мелі народнай падтрымкі. Але апошняя кропка ў гісторыі балгарска-расійскіх дачыненняў яшчэ не пастаўлена.

**Паводле «Радыё Свабода»**
**падрыхтаваў У.П.**

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Новнароджаны адчувае, калі бацькі пасвараныя

Па твары малечы вельмі лёгка вызначыць, калі яго бацькі лаюцца, сварацца, канфліктуюць: выраз яго твару прыгнечаны і неспакойны. Вы можаце запярэчыць, што гэта лухта, што нованароджаны не можа ўспрымаць усе тонкасці ва ўзаемаадносінах між бацькамі. Між тым, ён надзелены адчувальным розумам, які рэагуе на кожнае знешняе змяненне.

Падумайце, што будзе з дзіцем, якое кожны дзень назірае пачварныя сваркі сваіх бацькоў. Канешне, яно не разумее значэння ўсіх супярэчанняў, але злосць і лаянка абавязкова адаб'юцца на ягоных пачуццях, можа быць, на ўсёй ягонай істоце. І нядзіўна, што ў дзіцяці, якое гадавалася ў асяродку нялюбасці, змрочны, напружаны твар.

Вочы ці нос перадаюцца вашаму дзіцяці ў спадчыну, а выраз яго твару — гэта тое люстэрка, у якім адлюстроўваюцца адносіны ў сям'і.

У дзіцяці, якое гадавалася ў асяродку адчужэння і нялюбасці, да таго часу, як яно пойдзе ў дзіцячы садок і школу, ужо спеюць парасткі будучага няшчасця і разбурэння.

Аналіз многіх правапарушэнняў, якія здзейснілі падлеткі, паказвае, што ў асноўным першыя гады свайго жыцця яны праводзілі ў нешчаслівых сем'ях.

Доктар Шынічы Сузукі аднойчы сказаў: «Калі вы прыйдзеце дадому, пастаўце перад сабой сваіх дзяцей і ўгледзьцеся ў іх твары, вы прачытаеце ўсю гісторыю сваіх шлюбных адносін». Я ніколі не забуду гэтых слоў.

Зусім не абавязкова рабіць нешта асаблівае, каб спрыяць ранняму развіццю вашага дзіцяці. Самае лепшае спачатку — гэта стварыць гарманічныя адносіны між мужам і жонкай і прыемную псіхалагічную атмасферу ў сям'і.

### Нервовасць бацькоў заразлівая

«Мой сын такі ж змрочны, як і яго бацька» ці «мая дачка такая ж неахайная, як і яе маці». Так почасту скардзяцца бацькі, якія схільныя лічыць, што вартасці іх дзеці бяруць у спадчыну ад іх саміх, а недахопы ад другога з бацькоў. Аднак я спадзяюся, што бацькі, якія дачыталі маю кнігу да гэтага месца, ужо ўсвядомілі, што ўсё добрае і благое ў іх дзецях — вынік выхавання ад самага нараджэння.

Ранняе развіццё часта зводзяць да таго, каб напхаць дзіця інфармацыяй ці навучыць чытаць і пісаць у раннім узросце. Але што нашмат важней — гэта развіваць уменне разважаць, ацэньваць, успрымаць. Для гэтага няма спецыяльных праграм, і толькі тое, як паводзяць сябе бацькі, што яны робяць і адчуваюць, як размаўляюць з малечай, можа сфармаваць асобу дзіцяці. Так дзіця, выхаванае маўклівым, панурым чалавекам, будзе заўсёды панурым, а выхаванае неахайным чалавекам будзе неахайным. Але калі ў выпадку адсутнасці музычнага слыху ў маці яна можа не спяваць яму сама, а даваць слухаць плыты, то такія рэчы, як характар, эмоцыі, чуллівасць, почасту не ўсведамляюцца самім чалавекам. І нават калі чалавек ведае свае недахопы, іх нялёгка выправіць. Таму і трэба быць абачлівым у сваіх паводзінах.

Калі маці захварэе, яна можа пастарацца не заразіць сваё дзіця, напрыклад, не трымаць яго на руках занадта блізка ці надзець марлевую павязку. Але не так ужо шмат маці, якія клапоцяцца пра тое, каб не перадаць дзецям сваіх недахопаў.

Вірус пад назваю «нервовасць» у маці нашмат больш заразлівы і моцны, чым прастуда.

*(Працяг будзе.)*

**Падрыхтавала Л.Ш.**

## Грошы, мілыя сэрцу

Простаму чалавеку лёгка заявіць аб сваіх прыхільнасцях. Ён можа выйсці на вуліцу з адпаведным транспарантам ці, не маючы гэтай магчымасці, напісаць свае думкі аэразольнай фарбай на плоце. Затое ягоны ўрад знаходзіцца ў больш цяжкім становішчы, фармальна не маючы права дзяліць грамадзян на «чорных» і «белых» адпаведна іхнім палітычным перакананням. Але выйсце ёсць і тут. Выявы людзей ці рэчаў, папулярных у кіруючых колах, урад можа друкаваць (і друкуе) на банкнотах. Узгадайце савецкія рублі, упрыгожаныя партрэтам Леніна!

Сёння на мапе Еўропы з'явіўся цэлы шэраг новых дзяржаўных утварэнняў — прызнаных і непрызнаных. Што друкуюць на сваіх грошах яны?

Урад утворанай прарасійскімі сепаратыстамі на тэрыторыі Малдовы Прыднястроўскай Малдаўскай рэспублікі выпусціў банкноты з партрэтамі дарагіх іхняму сэрцу расійскага генералісімуса Суворава ды ўкраінца Багдана Хмяльніцкага, які больш за два з паловай стагоддзі таму далучыў Украіну да Расіі.

Іншым шляхам пайшлі славакі. Атрымаўшы незалежнасць, яны змясцілі на грошах партрэт Андрэя Глінкі — апостала славацкай незалежнасці, які ў свой час выступаў супраць «бацькоў» Чэхаславакіі — Масарака і Бенеша.

Што мы бачым на апошніх беларускіх купюрах? Славу Савецкай Арміі — Брэсцкую крэпасць ды будынак Нацыянальнага банка як сімвал няслаўя беларускага рубля. Як кажуць, што ні край, то звычай.

**У.П.**

## Што значыць кахаць?

Гэта геніяльна! Як можна жыць, калі цябе не кахаюць і ты не кахаеш? Але... Сполыск яшчэ не святло, а адлюстраванне — не аблічча. Жанчына майго жыцця — гэта не жанчына аднаго імгнення, а быць задаволеным малым у каханні не азначае пазнаць каханне. Сярод шматлікіх відаў любові ёсць сяброўства, любоў бацькоў да сваіх дзяцей, любоў-адданасць. Выключнае каханне паміж мужчынам і жанчынай, якія яднаюцца ў шлюбе. Каханне, якое ахоплівае нас як апошняя радасць.

Каб знайсці праўду ў каханні паміж мужчынам і жанчынай задамо сабе першае пытанне: што прыцягвае мяне ў ім ці ў ёй? Гэта паслугі якія ён (яна) мне аказвае, яго (яе) карысць? Гэта задавальненне (якое б ні было), што я адчуваю, знаходзячыся з ім (з ёй) ці якое мы падзяляем разам? Гэта пачуцці, якія я адчуваю ў адносінах да яго?

Калі адносіны пабудаваныя падобным чынам, становіцца зразумелым, што гэта пачуццё недасканалае: таму другому адводзіцца ў ім роля аб'екта. Ён сродак для мяне. Гэта гучыць парадаксальна, але атрымліваецца, што ў каханні я звернуты ў першую чаргу на сябе. Сапраўды кахаць кагосьці азначае кахаць яго дзеля яго самога. Сапраўднае, глыбокае пачуццё — гэта ў першую чаргу зычыць шчасця таму, каго ты кахаеш. Я кахаю яго (яе) не таму, што ён (яна) можа нешта даць мне, а таму што гэта менавіта ён (яна). У такіх адносінах двое будуць здольныя звесці разам пачуцці, змогуць дапамагчы адзін аднаму. Але гэтыя адносіны стварае асоба сама па сабе, незалежна ад сваіх вартасцяў і заганаў.

Каханне дапускае, такім чынам, вольны выбар, гэта азначае вырашыць любіць кагосьці, свабодна павярнуцца яму насустрач. Нельга па-сапраўднаму кахаць, не аддаючы іншаму часцінку нашай свабоды, і гэта рашэнне павінна быць узаемным, гэта важная ўмова. Такім чынам, зычыць шчасця каханаму чалавеку, значыць садзейнічаць уласнаму шчасцю, бо такім ёсць каханне — свабодны і ўзаемны дар. Безумоўна, гэта не заўсёды лёгка. Ва ўсіх нас бываюць змены настрою, мы прыціснуты штодзённым жыццём, выпрабаваннямі, якія сустракаюцца на нашым шляху; безумоўна, нашым эгаізмам. А каханне такое пяшчотнае і тонкае... Ці здолею я так кахаць яго (яе) праз дваццаць гадоў? Ці здолею я змірыцца з яго (яе) недахопамі? Ці магчымае каханне на ўсё жыццё, у выпрабаваннях, у хваробе?

Калі нашыя адносіны грунтуюцца на свабодным і ўзаемным рашэнні, нашае каханне можа расці, таму што каханне не даецца раз і назаўсёды. Не будзем звяртаць увагі на каханне з першага погляду, бо, хаця яно і раптоўнае, і асляпляльнае, яно — не больш чым моцны эмацыйны парыў, які не заўсёды перарастае ў глыбокае пачуццё.

Нашае каханне — асаблівае пачуццё, і таму яно ўзнікае з цягам часу і паглыбляецца па меры таго, як мы больш і больш давяраем адзін аднаму. Кожны дзень мы даём зразумець каханаму, якое важнае месца займае ён у нашым жыцці, і нашае каханне павялічваецца і абнаўляецца. І тыя падзеі, радасныя ці балесныя, якія мы перажываем разам, садзейнічаюць нашаму большаму збліжэнню, бо мы рухаемся насустрач адзін аднаму, нягледзячы на цяжкасці. Таму каханне — не простае паяднанне двух людзей, а ўзаемны дар, калі дзве свабодныя асобы аддаюць адзін аднаму ўсё самае каштоўнае, што ў іх ёсць у гэтым жыцці, — цела, душу, розум. У каханні лагічна імкнуцца да таго, каб гэты дар быў канчатковым. Толькі свабоднае рашэнне, прынятае свабодна і на ўсё жыццё, дазваляе чалавечаму каханню дасягнуць пэўнай дасканаласці і напоўніць сэрцы.

Для хрысціяніна крыніца і прыклад усёй любові — Бог. Ён — любоў, якая вышэй за любую любоў. Ён любіць нас раней, чым мы становімся здольнымі любіць, і працягвае любіць нас, калі нас больш не любяць. Ці не Ён — тая апошняя радасць, якую мы шукаем у жыцці?

**Па матэрыялах часопіса «Amour et verite» падрыхтаваў А.Н.**

## Пеюны

*Выправы на прыроду*

Траўневым днём, дзе б вы ні былі, усюды чуеце птушыныя галасы. Як вядома, спяваюць самцы, а іх песні — сігнал, што гэтая тэрыторыя ўжо занятая. Сама перш вы звернеце ўвагу на прыгожы, меладычны пошчак, які паўтараецца амаль без перапынку. Паглядзіце ўверх і пашукайце вачыма пеюна — убачыце невялічкую птушку з стракатымі пёркамі на крылцах. Гэта **берасцянка** (бярозаўка, зябок; па-расійску — зяблік), названая так, відаць, таму, што сваё акуратна звітае гняздо з тоўстымі сценкамі «аздабляе» звонку палоскамі бярозавай кары.

Берасцянку можна ўбачыць і на зямлі, дзе яна шукае сабе харч. Пры сустрэчы з чалавекам берасцянка падае сігнал трывогі: «пінь-пінь...», якому, кажуць, паводле тэмпу, рытму падобны пачатак вядомага вальса «Казкі венскага лесу.» І.Штраўса.

Прыгожа спяваюць і птушкі з сям'і лесак. У садзе вас прывабіць пошчак **лескі садавай.** Яна спявае і адначасова вышуквае вусеняў, пераскокваючы з галінкі на галінку. Набярыцеся цярпення, каб высачыць у зяляніне гэтую дробную, непрыкметную сваім аднатонным уборам попельнага колеру. (Пазней, як ападзе лісце, вы ўбачыце ў гушчэчы галін кустоў нізка над зямлёй або высока — да 5 метраў — на дрэвах гняздо гэтай птушкі, сплеценае з тонкіх галінак ды сухіх былінак і травінак.) Параўноўваючы з лескай садавай, вы зможаце пазнаваць іншых, таксама меншых ад вераб'я, яе сясцёр, што жывуць у лесе.

**Валасяначка** мае крылцы больш цёмнага колеру, а маленькае сваё гняздо ладзіць на маладых хваёвых дрэўцах.

**Чарнагалоўка** названая так, відаць, паводле чорнай (у самца) і светлакарычневай (у самкі) шапачкі.

**Перасмешка** адметная сваім стракатым, як у ястраба, апярэннем ніжняй часткі цела ды крыху большымі памерамі, а таксама трывожнымі крыкамі «чэк-чэк-чэк».

Да гэтай жа птушынай сям'і (паводле навуковай класіфікацыі) належыць і **пячураўка** (па-расійску — пеначка-веснічка), адна з сама маленькіх нашых птушак.

Яна тоненькім галаском высвіствае сваё «цві-цві-цві-цю-цю-цю-віў-віві-ф'ю-ф'ю...», ды без упынку патрэсваючы крылцамі, скача ў голлі невысокіх дрэваў.

Кожны, хто хоць аднойчы чуў прыгожую песню-посвіст **авяльгі** (вішнёўкі, калакухаўкі, па-расійску — иволга), не зблытае яе ні з якой іншай. Саму птушку з прыгожым жоўта-залацістым апярэннем часам удаецца ўбачыць у бярозавых гаях, дзе яна ладзіць сваё, вісячае паміж галін, гняздо.

Не толькі ў лесе, але і ў гарадскіх парках можна пачуць драздоў, параўнаўча вялікіх птушак. Песня **белабровага** складаецца нібы з дзвюх частак: цэлай серыі моцных свістаў, што чуваць далёка, і скрыпу. **Дрозда-піскуна** або **лепіка** можна пазнаць з ягонага трашчання «трр-трр-тртрр...» ды візгату, калі яго хтосьці патурбуе. Вельмі прыгожая песня ў **дрозда-певунца**, які звычайна любіць спяваць увечары, аспрэчваючы майстэрства салаўя.

**П.П.**

## Ваша лецішча

Шаноўныя чытачы прапануюць у «Кола сям'і» ўключыць садова-гародную тэматыку: маўляў, зараз без уласнай хаця б невялічкай падсобнай гаспадаркі шмат каму пражыць складана, а праца на зямлі, безумоўна, з'яўляецца, да таго ж, вельмі важнай часткай нацыянальнай культуры. Заадно, мяркуюць нашы паважаныя чытачы-прарадцы, такім чынам можна паказваць і шырокія магчымасці беларускай мовы ў сферы ўжывання сучаснай сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Апошняе, лічым, для кожнага, хто хоць з большага знаёмы з нашай лексікай, не выклікае аніякіх сумненняў — і тут мова беларуса нікому не саступае. А вось у тым, каб увесці для аматараў сада-агарода калонку-напамін, бачыцца сапраўды «рацыянальнае зерне». Бо, па-першае, зараз мала хто можа дазволіць сабе выпісваць некалькі газет. А калі і можа, то далёка не кожная з іх задавальняе сваёй палітычнай скіраванасцю. Бо сапраўды: ёсць такія, якія няблага пішуць пра вырошчванне бульбы-капусты ці саленне агуркоў, але ж не ўсім радасна, калі іх маюць за тубыльцаў з «краіны агуркоў», сельскагаспадарчую рабсілу для будаўніцтва новай бальшавіцкай імперыі.

Нарэшце, хоць значная бальшыня беларусаў і стала гараджанамі, шмат хто адчувае здаровую патрэбу ў вольную хвіліну не грукаць у даміно ці тырчаць да пасінення ля піўнога ларка, а хоць крыху папрацаваць на зямлі. Гэта, паміж іншым, не нейкі там часовы стан «пераходнасці» ад сельскага ў гарадское існаванне, якога той-сёй саромеецца. Як сведчыць вопыт Заходняй Еўропы, там нават прадстаўнікі вышэйшай арыстакратыі ў многіх пакаленнях там лічаць патрэбным уласнаручна пакорпацца ў садзе-агародзе і з гонарам расказваюць на свецкіх раўтах пра свае сельскагаспадарчыя дасягненні. Ганарыцца ж зняважлівым стаўленнем да зямлі могуць толькі люмпены ды бадзягі, гэта сімптом, прызнак выраджэння.

Тыя ж з нашых гараджан, хто не мае «сотак», могуць зноў жа па прыкладу заходнееўрапейцаў аб'ядноўвацца з суседзямі, каб урабляць наваколле свайго дома. Тым болей, што многія прыватызавалі кватэры, сталі іх уласнікамі. Каля прыстойных дамоў абавязкова павінны быць прыстойныя газоны-лужкі, кветнікі-градкі, а то і садок. Шкодзяць дваровыя падлеткі-хуліганы? Свае дамы ад іх можна абараніць шляхам яднання жыхароў у адмысловыя камуны-кааператывы. Дзіўна, што гэтым не хочуць займацца камуністы, замест таго, каб прагна імкнуцца аб'ядноўваць і «справядліва» дзяліць нажытае чужой працай, прыстасоўваючы для гэтага дзяржаўныя органы.

Вяртаючыся ж непасрэдна да сада-агарода, параім спярша не называць свае «соткі» нязграбным словам «дача». Бо гэта тое, што дадзена ў карыстанне, **часова**, як прыманка для лаяльнасці да таго, хто **даў**, гаспадара. Так здаўна прываблівалі чынавенства розныя дзяржаўныя ўладары. У савецкі час пачалі нешта даваць і працоўнаму люду. Але не дачы, а «соткі», каб зменшыць нарастанне сацыяльнай напружанасці ў грамадстве. Цяпер «соткі» дазваляецца прыватызаваць, а «дачы» зноў застаюцца прывілеяй чыноўнікаў адпаведнага рангу. Гасподзь з імі. Звычайнаму ж люду лепей, відаць, называць свае прыватныя «палеткі» старым ёмістым беларускім словам «лецішча». Ну, а нехта напаўжартам прымяняе заходнееўрапейскі выраз «ферма». Ці нават лацінаамерыканскі — «фазэнда». Справа густу. Мы ж зараз напрыканцы нагадаем, што:

У САДЗЕ ў апошняй дэкадзе мая (траўня) для добрага росту пладовых дрэў і ягаднікаў варта зрабіць першую падкормку адным з мінеральных азотных ці арганічных удабрэнняў (угнаенняў: раствараўшы іх у вадзе (уважліва сачыце за дазіроўкай!). Пачынайце ўсур'ёз змагацца з пустазеллем, у тым ліку абкошваць узбочыны. Скошаную траву варта выкарыстаць як мульчу, расклаўшы на прыствольныя кругі.

У АГАРОДЗЕ таксама першыя падкормкі азотнымі. Парнічок вы зрабілі. Цяпер высяваюць і ў грунт агуркі, кабачкі, пацісоны, гарбузы, але сухім насеннем. Прарошчанае насенне гэтых культур без плёнкі раней 25—28 мая высяваць небяспечна: да 5—8 чэрвеня вельмі магчымыя рэзкія начныя пахаладанні. Пра рэгулярную праполку, паліў і рыхленне напамінаць і не варта.

**Д.БАРАДЗЕД.**

*Асцярожней з тэлевізарам*

### 2. Артрыт і гіпертанія паасобку, а то і разам

Заўважана сувязь паміж праглядам тэлеперадач і ўзроўнем халестэрыну ў крыві дзяцей і падлеткаў. У выніку даследаванняў навукоўцы высветлілі, што палова апытаных, у якіх узровень халестэрыну ў крыві быў 200 мг і вышэй (гэта можа прывесці да артрыту ці сардэчных захворванняў), глядзелі тэлевізар не меней 2 гадзін у дзень. Шкодна яшчэ і тое, што малярухомы стан жыцця накладваецца на прывычку нешта есці ў часе прагляду тэлеперадач як рэфлектарную рэакцыю арганізма на доўгатэрміновае нервовае перанапружанне...

**«Нью-сайентыст» (Вялікабрытанія).**

ВУЧЫМСЯ

Вікторыя ЛЯШУК,
кандыдат філалагічных навук

Практычная стылістыка

# Ці лёгка вырашыць?

*«Прааналізуйце, ці аднолькава свабодна рашаюць свае тэмы аўтары».* Гэта заданне, змешчанае ў навукова-вучэбным тэксце, незразумелае, бо ў яго фармулёўцы парушаны важныя патрабаванні стылю — выразнасць і зразумеласць. Прычына такой недарэчнасці дастаткова зразумелая — праблізнасць моўных ведаў, недасведчанасць у значэнні і спалучальнасці слоў ці ігнараванне моўных законаў.

Акрамя трох слоў **(прааналізуйце, аўтары)**, усе іншыя кампаненты выказвання выклікаюць пытанні:

1. Слова **аднолькава** адлюстроўвае роўную меру ці ступень пэўнай якасці, а таксама падкрэслівае нічым не адрозную ад іншых характарыстыку. Ці можна гэта слова выкарыстоўваць для параўнання прамоваў, якія нясуць адбітак творчай індывідуальнасці, інтэлектуальнай дзейнасці? Ці не настройвае яно на ўспрыняцце маўленчай дзейнасці як механічнага паўтарэння?

2. Мнагазначнае слова **свабода** ў прыведзеным кантэксце павінна было абазначаць лёгкасць дзеяння, яго нязмушанасць. У такім выпадку заканамерна яно спалучаецца з дзеясловамі **валодаць, карыстацца** (мовай). Словазлучэнне **свабодна рашаць** больш прыдатнае для размоўнага стылю. Да таго ж, яно вельмі шырокае зместам і праз тое прыблізна паказвае крытэрыі аналізу.

3. Слова **рашыць**, таксама мнагазначнае, у спалучэнні з назоўнікамі найперш суадносіцца з словам **задача**. З іншымі назоўнікамі часцей ужываецца форма **вырашыць (праблему, пытанне, спрэчку, непаразуменне)**. На абмежаванасць формы **рашыць** уплывае беларускі фразеалагізм **рашыць жыцця** — 'забіць'. Ці мэтазгодна ўжываць слова **рашыць** ў згаданым кантэксце?

4. Словазлучэнне **свае тэмы** ўказвае, што творы напісаныя на розныя тэмы. На якой падставе тады іх можна параўноўваць? Калі ж тэмы аднолькавыя, то займеннік стварае нелагічнасць, ускладняе разуменне.

У выніку выказванне выходзіць за межы навуковага стылю, не тлумачыць, а заблытвае, а пад уплывам згаданага фразеалагізма набывае адценне іроніі, каламбура. Каб удакладніць заданне, неабходна канкрэтызаваць прадмет і крытэрый аналізу. Прапануецца такі варыянт фармулёўкі задання. (Замест аднаго сказа — чатыры. Яны не толькі канкрэтызуюць заданне, але і ўяўляюць сабой прыкладны план адказу-аналізу.)

**«Прааналізуйце тэксты і адкажыце, ці поўна раскрыта ў іх тэма? Ці спрыяе іх моўная форма разуменню зместу. Якая з прамоваў больш дасканалая? Абгрунтуйце свой адказ».**

З гісторыі красамоўства на Беларусі

# Чынім слаўна...

*Жыццё ўсяго народа,*
*Нібыта ў люстры, тут...*
**Максім Лужанін.**

Грамата, пра якую наша сённяшняя размова, сцвярджае канец княжання полацкага князя Андрэя Альгердавіча. З'яўленню гэтага дакумента папярэднічалі значныя сацыяльна-палітычныя падзеі: паход князя на Смаленск, затым аблога яго ў Полацку, пасля якой Андрэй Альгердавіч трапіў у палон, а яго ўладанні (таксама Менскія і Троцкія землі) перададзены літоўскаму князю Скіргайлу. Дарчая на гэтыя княствы датавана 25 красавіком 1387 г., пра што гаворыцца ў заключнай фразе: ***А кончано и написано оу Ловехъ Сконстерскихъ оу первую неделю по святемь Марку еуагелисте под леты божьими 1387.***

Склаў грамату князь Ягайла, які тытулуе сябе адпаведна свайму высокаму статусу, па імю, узятым пасля прыняцця каталіцтва: ***Владислав божье милости король полский, литовскии, руски, иных земль господарь.***

Наступная фраза падкрэслівае агульнае прызначэнне паведамлення, упэўненасць уладара ў сваёй праўдзе: ***Чинимъ славно и знаемо и даемъ ведомо оусем, хто коли сюю грамоту видить, а любо слышить прочитая.***

Усім зместам і моўнай формай падкрэслена спрыяльнае стаўленне да князя Скіргайлы, неаднаразова выкарыстана апісальнае найменне **брат наш**. Гранічна сцісла сфармуляваны абяцанні-абавязкі Ягайлы, кожнае з якіх пачынаецца, як у многіх аналізаваных граматах, злучнікам **а** — мяжой і спосабам вылучэння закончаных фраз тоеснага зместу і кампазіцыйных уласцівасцей. Выказванні пабудаваны на супрацьпастаўленні (антонімы **ліха — дабро**), зместавай адметнасці формаў ступеняў параўнання — для абазначэння выключных праяў: ***А брата ми своего не оутаити, сказати ми ему и лихо і добро.***

***А держати ми его выше оусее нашее братье и слушати ми его боле оусехъ своихъ приятелии и братьи...***

Наступная кампазіцыйная частка ўключае апісанне княстваў. Пры пералічэнні земляў выкарыстоўваецца для лагічнага ўпарадкавання паўтор слоў **тако (так) же**. Пры гэтым заўважаецца імкненне разнастаіць адnatыпную інфармацыю варыянтамі моўнага афармлення: ***Тако ж на рускои стороне город Менескъ литовьского жь княженья весь и со всеми людми и с землею и со всякою пошлиною и с доходом...***

***Так жь Бобруескъ обе половине и с данью и с землею и с людми и со оусеми доходы.***

***Так жь Речица вся и весь доход и дань.***

***Тако ж Любечь весь и люд и земля и весь доход с данью.***

***Тако ж Пропошескъ весь и люд и земля и весь доходъ и вся дань серебрьная...***

Сярод паселішчаў названы сучасны Менск, Слаўгарад (Пропошескъ), Чэрвень (Ігуменъ), а таксама Логожескъ, Туркгенево село, Груздовица, Анципорово, Лебедево і шмат іншых.

Беларускамоўная стыхія вызначае стыль многіх апісанняў. А лексіка, захаваная да нашага часу, уяўляецца трывалай повяззю мовы, народа, культуры і гісторыі, увасабляе традыцыі і дынаміку моўнага развіцця. Такую адзнаку нясуць, напрыклад, словы **адтуль, уніз, абапал**: ***А от Троковъ за Немонъ рубежь от Мерецкого города покеля Мерецкая волость, оттуля оунизъ по Нему али жь и до Немець обаполъ Немна...***

У адрозненне ад Менскага і Троцкого, Полацкае княства падрабязна не апісана, прычынай гэтаму, як мяркуюць, з'яўляецца тое, што межы яго былі добра знаёмыя. Правы валодання акрэслены абагульнена: ***А иному никому оу Полтескъ не оуступатися, толко князю Скирикгайлу володети городомъ Полоцкомъ и оусеми тыми месты и городы и волости и людми, оусею тою землею, што коли тягло и тягнеть к городу Полоцку.***

Традыцыйнай часткай дамоваў паўстаюць словы: ***На семъ на всемъ далъ есмь правду крепкую брату своему...***

За гэтымі радкамі — жыццё народа, за знаёмымі назвамі стаяць рэальныя людзі, нашы продкі, што жылі пры розных уладарах, выконвалі свае спрадвечныя дзействы, жылі з мовай і жывяць ёю нас, перадаючы традыцыі, перадаючы стыль..

Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»

Валянціна ВЫХОТА

# Коласавы зернеткі

*(Шматзначнасць нашых і нямецкіх слоў)*

*І гэта стрэшка шалудзіва —*
*То голы плех, то кучка моху,*
*І ўся дзіравілась патроху,*
*І нават **коміна** шчарбата.*

У гэтым урыўку слова *коміна* азначае частку коміна над дахам. У паэме Якуб Колас ужывае і слова **дымніца**:

*А гэта хата вось якая:*
..............................
*На ёй дзве **дымніцы**-блізніцы*
*З чырвонай цэглы...*

БРС, РБС і ТСБМ не даюць слова *дымніца* ў значэнні *комін.* У Слоўніку сінонімаў і блізказначных слоў М.К.Клышкі чытаем: комін, труба; дымар.

**Комін.** Труба для адводу дыму з печы (ТСБМ).

**Kamin** m 2. швейц. дымавая труба (GDRW).

Kamin, der 2. landsch. Schornstein (WDG); der Schornstein, die Esse, der Kamin (Bildwörterbuch Deutsch und Russisch); 2. Kamin m (schweiz. für Schornstein) (GD) (Große Duden).

У наступным урыўку

*Ляжаў, курыў і цыркаў сліну*
*З-за белай **коміны** на хату.*

слова *коміна* ўжытае паэтам для назвы часткі коміна паміж печчу і столлю.

У нямецкай мове: Rauchfang, der (veraltend) trichterformiges Zwischenstück zwischen dem offenen Herd und dem Schornstein, das den Rauch auffängt und ableitet. (WDG) (Варонкападобная частка дымахода паміж ачагом і дымавой трубой, якая ўлаўлівае (ловіць) дым і адводзіць яго). Іншая канструкцыя гэтай часткі дымахода дае магчымасць выкарыстаць яе як вяндлярню.

Параўнайце: Rauch m — дым, Rauchfang m — дымніца.

**Rauchfang** m дымаход; дымавая труба einen Schinken in den Rauchfang hängen (GDRW). Сінанімічны нямецкі слоўнік (SW) падае Schornstein m як сінонім слоў Kamin і Rauchfang з аднолькавымі фразеалагізмамі:

*In den **Kamin** schreiben: verloren.*
*In den **Rauchfang** schreiben: verloren.*
*In den **Schornstein** schreiben: verloren.*

Яны адпавядаюць беларускаму: **у коміне запісаць** (Ф.Янкоўскі).

Параўнайце: Kaminfeger, der камінар.

Гісторыя слова: «Наша слова» № 31 (243), 2 жніўня 1995 г.

*Другая нізенька прыгнецца*
*...разгорне кожную гарбінку*
*І моху **купінку** ўздзярэ —*
*Ну, ўсё, як ёсць, перабярэ.*

ТСБМ у першым значэнні слова купа падае: 1. Група дрэў, кустоў, якія густа растуць. Словы *купінка, купка, купіна* ўзыходзяць да *купа.* Паводле Г.Паўля ням. Haufen, der першапачаткова азначала мноства рэчаў, складзеных адна на адну слаямі.

**Купа** 3. Тое, што і куча, — купа саломы (ТСБМ) параўнайце: ein Haufen Heu (GDRW). Далей Г.Паўль гаворыць, што слова Haufen m стала азначаць гурток людзей ці жывёл.

**Купа.** 2. Гурт, група (звычайна пра людзей) (ТСБМ).

Haufen m 2. ein Haufen Menschen (GDRW). Суадносяцца і памяншальныя Häufchen, n і Häuflein, n са словам купка; купка дзяцей (ТСБМ)— ein Häuflein Kinder (WDG).

**Купіна, купка.** Кучка зацвярдзелай зямлі на нізкім або балоцістым месцы, аброслая травой, мохам (ТСБМ). **Купіна** кочка (БРС), кочка Erdhäufchen n (auf sumpfigem Boden) (РНС). Вельмі часта zu Hauf(e) = «zusammen» азначае «разам» (DW). Той жа крыніцы паходжання і слова *сукупны.* **Сукупны.** Аб'яднаны, сумесны, агульны (ТСБМ) і мае агульнае значэнне 'разам'; совокупный Gesamt=; vereint (РНС).

Гісторыя слова: «Наша слова» № 33—34 (245—246), 16—23 жніўня 1995 г.

Культура мовы

Алесь КАЎРУС

# У Барнауле, у Стамбуле, у Мядзеле

Гэтыя геаграфічна далёкія гарады пастаўлены побач з беларускім мястэчкам зусім не выпадкова, не дзеля гульні слоў. Яны пакліканы, а можа самі з'явіліся, каб дапамагчы нашаму абмінутаму ўвагай-клопатам лінгвістаў і журналістаў **Мядзелу**.

Ужо не адзін дзесятак гадоў парушаецца элементарнае правіла граматыкі. Пры нарматыўнай, кадыфікаванай форме назоўнага (і вінавальнага) склону *Мядзел* у склонах ускосных нярэдка можна ўбачыць, пачуць такія словаформы: (да) Мядзеля, (за) Мядзелем, (у) Мядзелі. Вось адзін свежы прыклад.

У газеце «Звязда» (28.03.96) змешчана інфармацыя пра пасяджэнне камісіі СПБ па творчай спадчыне Максіма Танка і тыя захады, мерапрыемствы, якія трэба правесці дзеля ўшанавання памяці нацыянальнага песняра і папулярызацыі яго творчасці. Але ў гэтым цікавым і карысным паведамленні — бы тая лыжка дзёгцю ў бочцы мёду: ужыта (двойчы) памылковая форма *ў Мядзелі:* Нельга не ўважыць і жаданне землякоў паэта бачыць скульптурную выяву песняра Нарачы над самой Нараччу, у яго родным **Мядзелі**.

Прыкра, што мы не прыслухаліся да аўтарытэтнай думкі народнага паэта наконт назвы раённага цэнтра: «Я, напрыклад, не ведаю, чаму з Мядзела зрабілі Мядзель, калі ў нас усе гаварылі: Мядзела? Ці не з'яўляецца гэта той жа калькай з польскага Miadzioł?» (З ліста аўтару артыкула, 1992 г.).

Сапраўды, у польскім «Слоўніку геаграфічным» (1885 г., т. 6) фіксуецца айконім Miadziol. Энцыклапедычны слоўнік Бракгаўза і Эфрона дае два варыянты назвы: «Мядзіолъ (перанос з польскіх крыніц? — А.К.) или Мядзелъ (Старый и Новый)».

У самога паэта («Лісткі календара») шмат разоў сустракаем слова *Мядзела* (і ні разу *Мядзель*), ужытае ў розных склонах: ...паеду ў Крывічы, Даўгінава і ў сваё **Мядзела**; Перакінуў толькі што прывезеныя з **Мядзела** газеты; А сёння цэлы дзень пракірмашавалі мы з бацькам у **Мядзеле**; Сусед мой, аказваецца, перад вайной вучыўся з Дубоўкам у **Мядзеле**, дружыў з ім.

Мэтазгодна дадаць прыклады з твораў таксама «мядзельца» У.Дубоўкі: Толькі сонца нанач//за **Мядзела**, за Гатавіцкі лес, —//Шумлівазвонны волат Нарач//калышацца ў сівой імгле... («Браніслава»). Ля **Мядзела** ёсць возера адно (безназоўны верш).

Красамоўны і такі факт. У лістах-заявах, напісаных жыхарамі вёскі Занарач па-расійску і накіраваных у пракуратуру (1940 г.), назва мястэчка падаецца ў традыцыйна-народным варыянце: Поехали с ним в **Мядело**. Удалось ему окончить семилетку в **Мяделе.**

І цяпер карэннае насельніцтва раёна гаворыць: паеду ў Мядзела, Старое Мядзела.

Такім чынам, у назве неафіцыйнай *(Мядзела)* і афіцыйнай *(Мядзел)* аснова канчаецца на цвёрды зычны *л.* Пры скланенні гэты ўласны назоўнік у адпаведнасці з граматычным правілам выступае ў словаформах: (да) Мядзела, (за) Мядзелам, (у) Мядзеле. Параўнаем: да Барнаула, Стамбула, за Барнаулам, Стамбулам, у Барнауле, Стамбуле.

Апошнім часам раённая газета «Нарачанская зара» стала правільна ўжываць слова Мядзел: Бераг паміж Старым і Новым **Мядзелам** апісаны Максімам Танкам у яго «Лістках календара» (25.10.95). ...ёсць у **Мядзеле** прыгожая і чыстая «Крынічка» (13.12.95).

І ўсё ж супрацоўнікі рэспубліканскіх выданняў, тэлебачання і радыё нярэдка забываюцца на гэтую асаблівасць айконіма Мядзел (што ў ім *л* цвёрдае) і тады ва ўскосных склонах пад уплывам назоўнікаў тыпу Гомель, Лепель ужываюць яго з канчаткамі мяккага варыянту: Мядзеля (як *Гомеля*), Мядзелю (як *Гомелю*), Мядзелем (як *Гомелем*), у Мядзелі (як *у Гомелі*).

А трэба ж пісаць, падкрэслім падагульняючы, *да Мядзела, пад Мядзелам, у Мядзеле.*

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

2. **ПО́КРЫВА** (снежны або лёдавы слой на зямлі, дрэвах і пад.) *То снег усцілаў зямлю, то праз некалькі дзён нізка над палямі навісалі калматыя дажджавыя хмары і змывалі яе белае покрыва* (Дуброўскі), **ПО́КРЫЎ** *А ручаіны стараюцца: нясуць жоўтую ваду з поля.., узрываюць ледзяны покрыў ракі* (Лужанін), **ПАКРЫВА́ЛА** *Пасля ўчарашняй завірухі дзень выдаўся марозны, і снежнае пакрывала спрэс зіхаціць на сонцы мільёнамі іскрынак* (Вітка), **ПО́ЛАГ** *Халодны полаг снегападу Укрыў марскія берагі* (А.Александровіч), **ПЛЯЛЁНКА** *Усё замёрзла пад плялёнкаю Снегу белага, халоднага* (Купала), **ПО́СЦІЛКА** і **ПАСЦІ́ЛКА** *Лес пасвятлеў, пабялеў і пазбыўся свае хмурай панурасці пад белаю чысцюткаю посцілкаю [снегу]* (Колас). *Неўзабаве ўсё.. пакрываецца аж да самай вясны белай пасцілкай снегу* (Паслядовіч), **ПРАСЦІНА́** *Аддало Лета прыгожыя серабрыстыя ключы. Зіма ўзяла іх, нахмурыла сівыя ад інею бровы і павярнула ключыкам нябачны замок. І адразу ўся зямля пакрылася белай-белай прасцінаю...* (Даніленка), **ПРАСЦІРА́ДЛА** *Пасля мяцеліцы, якая была загуляла звечара, прайшоў пад ранне ціхі сняжок, заслаў свежым прасцірадлам дарогі, дахі будынкаў, усё наўколле* (Я.Ермаловіч), **КО́ЎДРА** *Сярод азярынаў На коўдрах снягоў Праложаны трэлі Да белых стагоў* (Бядуля), **АПО́НА** *Як можна абняць вокам жаўцеюць, рана скінуўшы зімовую апону, руні* (Лужанін), **АБРУ́С** *Зіма свой абрус беласнежны пасцеле з найлепшай, са срэбнай, з пушыстай кудзелі* (Дубоўка), **МЯРЭ́ЖА** *Перад вачамі, імкліва змяняючыся, знаёмыя малюнкі — зімняя дарога ў полі, кусты ў пушыстай мярэжы інею, белы іскрысты снег* (Навуменка). *Вокны затканы мярэжамі, У коміне ветру пошчакі...* (Дзяргай), **МЯРЭ́ЖКА** *Марозная мярэжка на шыбах таксама крыху растала, і таму здаецца, што снег за акном не толькі зіхатлівы, але і падатны, мяккі, быццам гнуткае шкло* (Савіцкі), **КАРУ́НКІ** *Снег павіс белымі карункамі на дрэвах* (Каліна), **КУДЗЕ́ЛЯ** *Думы кладуцца узорам на снежнай кудзелі* (Танк). *Спачатку сыпала, як шротам, Завея снегам з вышыні. Затым круціла над балотам Кудзелю белай чысціні* (Кірэнка).

